

*Жыве Беларусь!*

# БЕЛАРУС

Address: P.O. Box 3225
Farmingdale, NY 11735

BIELARUS / Belarusan newspaper in Free World
Published by the Belarusan American Ass'n Inc. ISSN 1054-9455

№493 Люты 2004 г.
Год выданьня 54

## Заява Рады Беларускай Народнай Рэспублікі

### Аб сытуацыі вакол Таварыства Беларускай Мовы імя Скарыны



Менскія ўлады пазбаўляюць памяшканьня Таварыства Беларускай Мовы (ТБМ). У выніку, паводле цяперашняга заканадаўства, ТБМ апынаецца пад пагрозаю юрыдычнай ліквідацыі.

Наступ на ТБМ - гэта працяг палітыкі прымусовай русыфікацыі й зьнішчэньня асяродкаў беларускасьці, якую Лукашэнка распачаў адразу пасьля прыходу да ўлады дзесяць гадоў таму. У выніку зачыненыя беларускія школы, беларуская мова выведзеная з ВНУ, дзяржаўныя электронныя СМІ пераведзеныя на расейскую мову, сярод апошніх акцыяў - ліквідацыя Нацыянальнага гуманітарнага ліцэю імя Якуба Коласа.

Цынічнаю праявою антынацыянальнай палітыкі ўладаў быў адмоўны адказ на прапанову Віцебскай абласной і некаторых іншых суполак ТБМ захадаў у справе ўшанаваньня памяці Васіля Быкава - вялікага беларускага пісьменьніка, чыё імя для ўсяго сьвету зрабілася прыкладам духоўнай сілы беларускага народу. Адначасна, вуліцы беларускіх гарадоў, установы й прадпрыемствы носяць імёны асобаў, якія вызначыліся асаблівай жорсткасьцю ў падаўленьні беларускага нацыянальнага руху ды арганізацыі бальшавіцкага тэрору.

Пагроза, якая цяпер паўстала перад Таварыствам Беларускай Мовы, павінна быць ў цэнтры грамадзкай ўвагі. Народ, пазбаўлены мовы, робіцца нямым. Гэта цудоўна разумеюць Крэмль і Лукашэнка. Гэта павінны разумець і тыя палітычныя лідары ў Беларусі, якія дэкляруюць прыхільнасьць прынцыпам дэмакратыі й рынку. Безь беларускай мовы немагчымае нацыянальнае Адраджэньне, а без Адраджэньня ніякія рынкавыя рэформы не прынясуць дабрабыту беларускаму народу.

Рада БНР лічыць сваім абавязкам зьвярнуць увагу ўрадаў краінаў Захаду і міжнародных арганізацыяў на сытуацыю, якая склалася вакол ТБМ. Рада БНР заклікае усе партыі й арганізацыі ў Беларусі, якія стаяць на пазыцыях Незалежнасьці, падтрымаць ТБМ у ягоным змаганьні за адраджэньне беларускай мовы.

## Дэманстрацыя ў Брэгенцы (Аўстрыя)

Ідэя правесьці дэманстрацыю ў горадзе Брэгенц у Аўстрыі, каб зьвярнуць увагу эўрапейскай супольнасьці на жахлівае становішча ў Беларусі, дзе правіць дыктатарскі рэжым маскоўскага паслугача Лукашэнкі, была мая. Арганізацыяй займаўся таксама я, а дапамагалі мне актывісты некаторых аўстрыйскіх партыяў, найбольш "Зялёныя". І дапамога гэтая была вельмі значнаю: яны дамовіліся зь мясцовымі ўладамі, запрасілі журналістаў, пашылі беларускія нацыянальныя сьцягі, далі матар'ялы, каб намаляваць плякаты, надрукавалі запрашэньні й улёткі.

За месяц да дэманстрацыі я разаслаў праз электронную пошту запрашэньні ўсім беларусам, якія жывуць у Аўстрыі й суседніх краінах. Адрасы ўзяў на старонцы www.knihi.com . За тыдзень да акцыі разаслаў яшчэ 2500 запрашэньняў аўстрыйцам, на падтрымку якіх таксама разьлічваў.

Цікавая зьява, беларусы, якія напачатку падтрымалі ідэю правядзеньня дэманстрацыі, не дапамаглі нічым. Тыя, хто паабяцалі прыйсьці маляваць плякаты, раздаваць улёткі, падтрымаць акцыю сваім удзелам, усе яны потым адмовіліся, спасылаючыся хто на хваробу, хто на занятасьць, а хто і на запалоханасьць беларускімі ўладамі. Дапамагла мне толькі адная дзяўчына-беларуска Ліана Бур-ва, якая жыве ў Вене.

*Працяг на бачыне 2*

## Вырваныя бачыны

## "Я быў намесьнікам Акінчыца."

*У беларускім нацыянальным руху, параўнаўча маладым, ёсьць свае сьвятыя, свае прарокі, ёсьць і свае табуяваныя гэроі. Да ліку апошніх належыць, бяз сумневу, Фабіян Акінчыц, пра якога Юры Туронак ва ўжо клясычным дасьледаваньні "Беларусь пад нямецкай акупацыяй" пісаў: "Акінчыц зьвязваў усе свае палітычныя надзеі з Трэцім Рэйхам і падкрэсьліваў, што "лёс беларускай справы залежыць выключна ад антыбальшавіцкага фронту". "н рашуча паўставаў супраць тых беларускіх дзеячаў, што не падзялялі ягоных спадзяваньняў на нямецкую перамогу, а разьлічвалі на іншыя пэрспэктывы заканчэньня вайны ды адначасова імкнуліся ўзмацніць свае нацыянальныя пазыцыі ва ўмовах акупацыі". І далей: "Гэтыя прынцыпы Акінчыц імкнуўся рэалізаваць з дапамогаю сваіх людзей, асабліва тых, што працавалі ў прапагандысцкім апараце беларускіх акруговых камісараў".*

*Менее людзей, далучаных да тагачасных падзеяў, і дасьледчыкам застаецца разьлічваць хіба што на архіўныя знаходкі ў месцах, дзе нават парогаў няма. Таму неверагоднаю ўяўлялася сустрэча з чалавекам, які жыве сёньня на так званай Талстоўскай фарме ў Valley Cottage, што ў штаце Нью Джэрсі, выпісвае газэту "Беларус", набывае БІНІМаўскія выданьні, сочыць за падзеямі на Бацькаўшчыне, але актыўнага ўдзелу ў беларускім грамадзкім жыцьці не бярэ. Тым ня менш менавіта **Мікалай Чупракоў** - так клічуць гэтага чалавека - ініцыяваў сустрэчу зь сябрамі рэдкалегіі газэты. Гутарылі аб гісторыі ня толькі прыватнай - нашай агульнай. Вось ягоны маналёг, без пярэрваў на пытаньні, на паўзы разважаў ды ваганьняў.*

Я нарадзіўся ў 1918 годзе ў Менску, але ў 1920 мы выехалі ў вёску Смык Асіповіцкага раёну, дзе жылі матчыныя бацькі. Бацька быў пастухом, а пазьней, у 1921, як пераехалі ў Асіповічы, пачаў працаваць на чыгунцы. Працаваў там да самай сваёй сьмерці ў 1956 годзе. Маці працавала пры сярэдняй школе, на кухні, памерла ў 1958 годзе.

Мае старэйшыя сястра і брат вучыліся ў школе нямецкай мовы, а я браў іхныя падручнікі й вучыўся самастойна, бо надта цікава было тое мне ды й лёгка ішло. То калі я ў пятай клясе па праграме пачаў вучыць, ведаў ужо ўсё. І настаўніца, немка Марыя Густаўна, любіла мяне выклікаць на дапамогу, калі ніхто ня ведаў адказу. Ейны муж, дарэчы, афіцэр царскай арміі, выкладаў беларускую мову. Веданьне нямецкай мовы ўратавала мяне ў палоне, дзе я быў перакладчыкам.

Вучыўся я ў Менскім Пэдагагічным інстытуце, на філялягічным факультэце, беларуская мова і літаратура. Памятаю прафэсара Замоціна - выключны чалавек! Калі яго арыштавалі, на месца дэкана паставілі студэнта 4 курсу Мішу Белкіна.



Скончыў інстытут у 1940 годзе, апошнім перадваенным выпуску, але лёс яшчэ неаднойчы вяртаў у тыя сьцены. Там у час вайны была турма, і як мяне прывезьлі на расстрэл, пасадзілі туды. А яшчэ там была беларуская вайсковая ўстанова, штаб, якім кіраваў Кушаль, да якога я прыходзіў па справах Акінчыца. А пазнаёміўся з Акінчыцам я так.

У Вустраве быў лягер для ваеннапалонных Чырвонай Арміі. Там былі беларусы, расейцы, украінцы. І быў створаны цэнтар па падрыхтоўцы прапагандыстаў. Кожная нацыянальная група займалася паасобку. Беларусаў з украінцамі пазьней перавялі ў іншы лягер, які называўся Вуцыц, але і ў новым лягеры занятки ішлі асобна. У кожнай групы была свая частка лягеру.

У першай групе нас было чалавек каля дваццаці. Памятаю імёны: Бедрыцкі, Старавойтаў, Сапега, Пётра Сахон, Сымон Шаўцоў, што пазьней апынуўся ў Аўстраліі. Быў Генрык Барановіч, ён дапамагаў Акінчыцу ў зносінах зь немцамі. Здаецца, выехаў па вайне ў Канаду. Быў Міхась Ганько, адзін з самых вялікіх патрыётаў беларускага народу, ён потым зь першаю групаю выйшаў. Быў ён настолькі аддадзены беларускай справе, што не зусім уяўляў, як мне здаецца, што навокал адбывалася. Калі ішло да канца, і зь Менску ўсе выехалі, ён прыехаў у Вустраў да мяне і пачаў казаць, што нам трэба арганізоўваць сваё кіраўніцтва, урад ды прапанаваў мне быць міністрам прапаганды. Я адказаў, што зь ім на ўсё гатовы ісьці, але запытаў, што з таго можа выйсьці, бо справа падыйшла да канца, трэба хавацца і ні пра якую ўладу ня можа ісьці гаворка. Больш я яго ніколі ня бачыў.

Акрамя Акінчыца, занятки праводзіў я зь Юркам Зямёнкам. Расказвалі, што такое савецкая ўлада, давалі прыклады з уласнага жыцьцёвага вопыту. У Юркі бацька, пісьменьнік, быў арыштаваны, высланы, у мяне сваякоў поўна пасадзілі. Так што ведалі, пра што казаць. Расказвалі й пра гісторыю Беларусі, пра Вялікае Княства Літоўскае.

Галоўную ролю на тых курсах адыгрываў Фабіян Іванавіч Акінчыц. Гэта быў чалавек невысокага росту, спакойны. Нічым асаблівым зьнешне не вылучаўся. Быў ён вельмі добрым, спагадлівым, імкнуўся памагчы ўсім. Ягонаю мэтаю было вызваліць як мага больш беларусаў-ваеннапалонных. Бо, што нямецкі палон - сьмерць, ведалі ўсе. Немцы намагаліся як мага болей зьнішчыць славянаў. І гэта Фабіян Іванавіч пачаў адчуваць надта моцна. А ён-жа меў непасрэдныя дачыненьні з Розэнбэргам, галавою акупаваных усходніх абласьцей. Вось на просьбу Акінчыца распусьціць калгасы й даць зямлю сялянам, гэтым самым здабыць давер ды настроіць супраць камуністаў, што загналі ў тыя калгасы, Розэнбэрг адказаў, што рабіць таго ня будзе, а зробіць толькі тады, калі сялянаў прывязуць назад зь Сібіры. Так, туды было выслана багата так званых "кулакоў", але чакаць на іхнае вяртаньне было неразумна. Нават болей, немцы выкарыстоўвалі калгасы. У кожным сядзеў іхны чалавек, сачыў за сялянамі. Немцам было выгадна: прасьцей спаганяць харчы ды сачыць за людзьмі таксама, як яны ў гурце. Другая справа. Калі Фабіян Іванавіч хацеў арганізаваць сваю беларускую нацыянал-сацыялістычную партыю, аб'яднаць народ вакол яе, калі папытаў дазволу Розэнбэрга, той адказаў: ніколі! Толькі адна нацыянал-сацыялістычная партыя будзе існаваць у сьвеце - гэта нашая партыя!

Фабіян Іванавіч радзіўся аб усім з намі дваімі - Юркам Зя-

*Працяг на бачыне 5*

Працяг з бачыны 1



Яна зрабілі пераклад лёзунгаў на ангельскую і нямецкую мовы. Вялікі ёй дзякуй!

Калі пачалася акцыя, прыехалі карэспандэнты з тэлеканалу ORF і аўстрыйскага прэсагенцтва. У тэленавінах быў кароценькі рэпартаж, 2-3 хвіліны, паказалі аднаго хлопца дэманстранта.

Калі я ў суправаджэньні паліцыянтаў ішоў па вуліцах раздаваць улёткі, да мяне далучылася група маладзёнаў з партыі "Зялёных". Яны былі са мною да канца акцыі. За гэта я ім шчыра ўдзячны.

А так званыя палітуцекачы зь Беларусі спазьніліся на тры гадзіны й прыйшлі не на пляц, дзе я стаяў з маладымі аўстрыйцамі, а ў пакойчык, дзе я жыву, калі я ўжо вярнуўся.

Вось так прайшла гэтая дэманстрацыя. Я лічу гэта толькі пачаткам. Зь сябрамі, якія жывуць у Вене, а іх там ужо нямала, мы плянуем правесьці акцыі ля беларускай амбасады й прадстаўніцтваў розных міжнародных арганізацыяў.

Хочацца яшчэ раз падзякаваць актывістам аўстрыйскіх партыяў, якія мне дапамагалі. Чаму на дэманстрацыю не прыйшлі простыя аўстрыйцы, якім я рассылаў запрошэньні? Напэўна таму, што вельмі мала ведаюць пра Беларусь і становішча там. Каб ведалі хоць палову таго, што там робіцца, то, упэўнены, яны не засталіся-б убаку.

***Андрусь КЛЁН***

***На здымку: арганізатар акцыі з аўстрыйскімі сябрамі на вуліцы гораду Брэгенцу.***

# Выстава Паўлінкі Сурвіллы



***Адзін з 36 твораў беларускай мастачкі ў ЗША Паўлінкі Сурвіллы, якія выстаўляліся на працягу кастрычніка на пэрсанальнай выставе мастачкі ў галерэі імя Вальдэмара Шміта Вартбургскага каледжу ў штаце Аёва, ЗША.***

# БАЙКОТ

## *Чаму трэба байкатаваць выбары*

У кастрычніку 2004 году рэжым Лукашэнкі плянуе правесьці ў Беларусі выбары ў парлямант ("палаты"). Усе выбары й рэфэрэндумы, якія праводзіліся перад гэтым паказалі, што рэжымам створаная шырокая, паслухмяная і праверaная машына фальсыфікацыі галасаваньня. Ня мае значэньня, як галасуюць выбаршчыкі, важна, каб яны ўдзельнічалі ў галасаваньні. Машына фальсыфікацыі заўсёды падлічыць галасы ў сваю карысьць.

Дзейнасьць сыстэмы фальсыфікацыі грунтуецца на выработаным адміністрацыйным рэсурсе, які фармуе і кантралюе ўсе выбарчыя камісіі, ад участковых да Цэнтральнай. У той-жа час сам "адміністрацыйны рэсурс" цалкам і жорстка кантралюецца вышэйшай уладай рэжыму.

Грамадзкае назіраньне над галасаваньнем практычна ліквідаванае. Назіральнікаў не дапускаюць да назіраньня за падлікам галасоў, а ў большасьці выпадкаў - і да назіраньня за працэсам галасаваньня. Скаргі й пратаколы назіральнікаў не прымаюцца пад увагу.

Рэжым поўнасьцю кантралюе электронныя сродкі масавай інфармацыі й увесь друк (у тым ліку і так званы "незалежны", акрамя мясцовых самадзейных лісткоў). Кандыдатаў, альтэрнатыўных рэжыму, не дапускаюць выступаць у СМІ.

Трэба ўлічыць адсутнасьць дэмакратыі ў краіне, існаваньне рэжыму дыктатуры, бясправе і недэмакратычнасьць Закона аб выбарах. Парлямант Лукашэнкі ня мае рэальнай заканадаўчай самастойнасьці, напалову прызначаецца і поўнасьцю кантралюецца Лукашэнкам.

У гэтай сытуацыі той, хто для рэжыму "ня свой", праз галасаваньне не праходзіць. Машына не прапускае. Змагару з рэжымам выстаўляць сваю кандыдатуру ў такіх "выбарах" - гэта значыць выступаць у ролі дурня, ці яшчэ горай - ідыёта. Але самае дрэннае - гэта падыгрываць антынароднаму рэжыму, сьцягваць яму выбаршчыкаў на галасаваньне, забясьпечваць ягонай прапагандзе аргументы для стварэньня бачнасьці нібыта "дэмакратычных" выбараў (маўляў, глядзіце, удзельнічаюць альтэрнатыўныя кандыдаты й розныя партыі).

Удзел больш паловы выбаршчыкаў у галасаваньні абазначае, што выбары адбыліся. Гэта дае магчымасьць рэжыму скарыстаць "машыну" і сфальсыфікаваць выбары, а потым гаварыць нібыта пра "адпаведнасьць закону". Рэжым зацікаўлены, каб выбаршчыкі ішлі на выбары па ягоным сцэнары.

Зусім іншая карціна ўзьнікае, калі выбаршчыкі не прыходзяць галасаваць, байкатуюць галасаваньне. Сфальсыфікаваць выбары ў такім выпадку значна цяжэй. У выніку байкоту фальсыфікацыйная машына пракруціцца ўхаластую. Правал несправядлівых выбараў у выніку байкоту будзе азначаць правал рэжыму Лукашэнкі й перамогу народа. Гэта ўздыме дух салідарнасьці ў людзей. Грамадзтва набудзе ўпэўненасьць у сабе і здольнасьць да змаганьня. Узьнікне іншая сытуацыя, у якой паўстане пытаньне аб новых выбарах прэзыдэнта (без удзелу Лукашэнкі). Зьявіцца шанс скончыць з антыбеларускім рэжымам.

Зьвернем ўвагу, што ўлады разумеюць небясьпеку байкоту для сыстэмы фальсыфікацыі. Каб запабегчы праваму, яны прыдумалі (і ўнесьлі ў антыдэмакратычны закон) так званае "папярэдняе галасаваньне", якое доўжыцца цэлы тыдзень і практычна недасягальнае для грамадзкага кантролю. На працягу тыдня ўлады пад прымусам і пад пагрозаю звальненьня з працы звозяць аўтобусамі людзей на выбарчыя ўчасткі й прымушаюць галасаваць. Распрацаваныя таксама мэтады прымусу для студэнтаў, навучэнцаў, вайеннаслужачых, чыноўнай бюракратыі, калгаснікаў і г. д. У час прэзыдэнцкіх выбараў 2001 году на асобных участках (папярэдняга галасаваньня) набралі такім мэтадам больш 50% прагаласаваўшых (што зьяўляецца антызаконнай прафанацыяй выбараў). Пытаньне, як прагаласавалі такія "папярэднія" выбаршчыкі, вырашалася ў камісіях проста: некантралюемыя грамадзкасьцю ўрны зь бюлетэнямі падмяняліся іншымі ўрнамі зь іншымі бюлетэнямі. Так быў "зроблены" патрэбны вынік галасаваньня.

Наступны мэтад запабяганьня байкоту выбараў (які ўжываюць пераважна ў сельскай мясцовасьці) - гэта аб'езд выбаршчыкаў з пераноснымі ўрнамі для галасаваньня (галасаваньне "па дамах"). Ні ціск на выбаршчыкаў, ні напаўненьне ўрны бюлетэнямі, практычна, немагчыма ў гэтым выпадку пракантраляваць. Таму мэтадам "падворнага абходу" шырока карыстаюцца фальсыфікатары.

Аднак у гэтай сытуацыі найбольшай здрадай і небясьпекай зрыву байкоту зьяўляецца ўдзел у недэмакратычных "выбарах" нібыта альтэрнатыўных кандыдатаў ад палітпартыяў ды групаў, якія разам з агентурай КГБ агітуюць народ ісьці на выбары й галасаваць за "апазыцыю" ды за іншых "сяброў народа", а ў рэальнасьці выкарыстоўваюць сродкі замежных датацыяў, бессаромна займаюцца так званым "палітычным бізнэсам".

Справа тут ня простая, бо "кіруемая апазыцыя" створаная ў Беларусі ў асноўным зьнешнімі сіламі па сумеснай праграме Менскай Місіі АБСЭ і КГБ. Аб гэтым нядаўна прызнаўся былы кіраўнік Місіі АБСЭ ў Менску (і былы кіраўнік зьнешняй разьведкі Нямеччыны) Ганс-Георг Вік (гл. "Белорусская газета", -- 2004, 12 студзеня). "Кіруемая апазыцыя" - гэта не адраджэнцкая апазыцыя. Яна была задуманая насуперак беларускаму нацыянальна-дэмакратычнаму руху і як разбуральная альтэрнатыва Беларускаму Народнаму Фронту, які ў 1991 годзе вярнуў незалежнасьць краіны й спыніў дзейнасьць КПСС на Беларусі.

Падстаўная апазыцыя, арганізаваная Гансам Вікам і КГБ з былой намэнклатуры, з агентуры, з былых паплечнікаў Лукашэнкі, з прамаскоўскіх партыяў (тыпу АГП і камуністаў), з асобаў, што займаюцца "палітбізнэсам" і зь людзей, якія дрэнна арыентуюцца ў палітыцы. Яна цалкам кантралюецца КГБ (асабліва кіраўніцтва) і фінансуецца з-за мяжы.

Менавіта замежныя функцыянеры ад палітыкі й грошадаўцы патрабуюць ад аплочаных апазыцыянераў удзельнічаць у ненармальных выбарах, ствараць ненармальныя "кааліцыі" й агітаваць выбаршчыкаў на заведамае ашуканства. Гэтакай бізнэс-кааліцыяй зьяўляецца, напрыклад, так званая "пяцёрка плюс" (у народзе называюць "шасьцёрка мінус"), дзе сабраліся групоўкі ад лібэралаў да камуністаў. Яны (пачуўшы пах замежных грошай) і агітуюць за ўдзел у недэмакратычных выбарах, хоць самі-ж бессаромна гавораць, што ў парлямант ніхто з "кааліцыі" ня пройдзе.

У аснове замежных патрабаваньняў дзьве прычыны. Першая - гэта поўнае неразуменьне беларускай рэальнасьці, характэрнае для шмат якіх цяперашніх эўрапалітыкаў. Яны мяркуюць, што "выбары 2004 году трэба выкарыстаць для дэмакратызацыі становішча ў Беларусі й пашырэньня правоў парляманта", што ў любых выбарах трэба ўдзельнічаць, каб набіраць "палітычны вопыт". (Хаця зразумела, што пасьля правядзеньня выбараў па сцэнары Лукашэнкі, іхны набыты "вопыт" нікому не спатрэбіцца, бо гэта ня вопыт, а нешта іншае).

Другая прычына больш сур'ёзная. Гэта палітычны інтэрас тых, хто дае грошы падстаўной апазыцыі й "заказвае музыку". (Напрыклад, нямецкі інтэрас у легалізацыі рэжыму Лукашэнкі й уплываньне на яго, ці таемная падтрымка здачы Беларусі пад Расею дзеля зьмяншэньня транзітнай прасторы ды зручнага вырашэньня пытаньня з Калінінградзкай вобласьцю і г. д.)

Мой шматгадовы палітычны вопыт на Захадзе пераконвае мяне, што шмат якім эўрапалітыкам з АБСЭ ды Эўразьвязу (асабліва нямецкім) нашыя беларускія праблемы, лёс нашай незалежнасьці, беларускай мовы, беларускай культуры, беларускай эканомікі, фінансаў, а зрэшты й лёс беларускай дэмакратыі - зусім не абходзяць. Іх цікавяць толькі свае палітычныя ды эканамічныя інтарэсы ў Беларусі й у сувязі з гэтым - свае лібэральныя паняцьці аб дэмакратыі як сродка забесьпячэньня інтарэсаў.

Замежныя грошы на аплату падстаўной апазыцыі вельмі нашкодзілі беларускаму грамадзтву і будучыні беларускай дэмакратыі, бо дэмаралізавалі частку палітычна актыўных людзей.

З падстаўной апазыцыяй, з палітбізнэсам, які яна спарадзіла, і з умяшаньнем ва ўнутраныя справы Беларусі разбуральных чужых грошай і хцівых людзей неабходна змагацца ўсяму беларускаму грамадзтву. Беларускую дэмакратыю і беларускую палітыку павінны падтрымліваць не замежныя, а беларускія грошы, бо чужыя грошы даюцца дзеля чужых інтарэсаў. Але трэба памятаць: ня грошы вырашаюць у палітыцы, а дух змаганьня.

Аднак акрамя функцыянераў, людзей "заангажаваных" і сьведамых канфармістаў, у падстаўной апазыцыі й вакол яе ёсьць шмат асобаў, якія, магчыма, недастаткова прааналізавалі становішча, не ўсьведамляюць, у якую нядобрую справу іх цягнуць, засланяючыся гучнымі словамі й карыснымі абяцаньнямі. Менавіта гэтыя людзі могуць ацаніць рэчаіснасьць, адыйсьці ад супрацоўніцтва з калябарантамі й далучыцца да байкоту недэмакратычных, ненармальных і ўжо прадвызначаных рэжымам выбараў.

Посьпех байкоту - гэта шанс на грунтоўныя перамены ў Беларусі.

Мы, беларусы, мусім добра ўсьвядоміць тое, чаму вучыць нас (і ня толькі нас) нацыянальная гісторыя: сваю дзяржаву, сваю незалежнасьць і свой парадак мы можам стварыць толькі самыя, сваім розумам, сваімі рукамі й сваімі грашыма.

Падтрымлівайце байкот антыдэмакратычных выбараў. Далучыйцеся да Ініцыятывы "Беларуская Салідарнасьць", якая зыходзіць ад Беларускага Народнага Фронту і ад ягонай Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі - БНФ, што арганізуе байкот. Стварайце групы ІБС, агітуйце за няўдзел у несправядлівых выбарах. Рыхтуймася да новых выбараў прэзыдэнта!

***Зянон ПАЗЬНЯК***
***Старшыня БНФ "Адраджэньне"***

# Беларусь за месяц

## Пабілі Маскву!

6-8 лютага ў Менску адбыўся тэнісны матч 1/8 фіналу Сусьветнай групы паміж Беларусьсю і Расеяй. Матчу спадарожнічаў вялікі ажыятаж, які, відаць, быў-бы меншым, каб беларусам трапіліся іншая каманда. На фоне палітычных і эканамічных крызысаў, дзьвухсоттгадовай акупацыі й зьдзекаў, якія цярпелі цягам стагодзьдзяў ад усходняга суседа, пабіць Расею было справаю гонару.

Беларусы - Максім Мірны, Аляксандар Швец, Уладзімер Ваўчкоў - перамаглі ў зацятай барацьбе зь лікам 3:2. А сапраўдным героем стаў Уладзімер Ваўчкоў, які ў першы дзень атрымаў траўму, але, перасільваючы боль, вярнуўся на корт і паставіў пераможную кропку.

Лукашэнка на закрыцьці турніру, ўзнагародзіў Максіма Мірнага, капітана каманды Сяргея Цяцерына і Уладзімера Ваўчкова ордэнамі.

Цяпер 9-11 красавіка ў 1/4 фіналу ў Менску беларусы згуляюць са зборнаю Аргентыны.

## Прэзэнтацыя "5+"

19 студзеня ў Менску быў прэзэнтаваны перадвыбарчы сьпіс кандыдатаў у дэпутаты Палаты прадстаўнікоў беларускага парлямэнта ад Народнай кааліцыі "5+". Выбары пройдуць увосень. "5+" заснавалі Аб'едназая грамадзянская партыя (АГП), Беларуская партыя працы, Беларуская сацыял-дэмакратычная Грамада (БСДГ), Партыя БНФ, Партыя камуністаў Беларусі (ПКБ). Пазьней далучыліся Беларуская партыя "зялёных", а таксама некалькі дзесяткаў грамадзкіх арганізацыяў і ініцыятываў.

Кааліцыя мае намер вылучыць 220 кандыдатаў на 110 выбарчых акругаў - па два кандыдаты на кожную. Гэта робіцца на выпадак зьняцьця ўладамі з перадвыбарчай гонкі аднаго апазыцыйнага кандыдата (як гэта рабілася на мясцовых выбарах мінулай вясною). Афіцыйна сьпіс пакуль уключае каля 150 прозьвішчаў. Сярод іх многія ведамыя ў краіне людзі.

## ТБМ высяляюць

Камунальныя службы Партызанскага раёна беларускай сталіцы, дзе знаходзіцца сядзіба Таварыства Беларускай Мовы, паставіла ТБМ перад фактам: арэнда памяшканьня, якая сканчаецца 4 сакавіка, працягнута ня будзе. Маўляў, памяшканьне спатрэбілася. Між тым, знайсьці іншы офіс у Менску цяжка, бо гарадзкія службы будуць чыніць перашкоды па рэгістрацыі ТБМ на новым юрыдычным адрасе. Тым часам ТБМ зьвярнулася з адкрытым лістом да кіраўніцтва краіны - прэм'ерміністра і сьпікераў абедзьвюх палатаў, дзе просіць перадаць памяшканьне на вуліцы Румянцава ў доўгатэрміновую арэнду.

## У інтэрнэт не пісаць - аштрафуюць.

Хто ведае, можа з часам беларускія ўлады, прачытаўшы "Беларуса" ў інтэрнэце і знайшоўшы крамолу вышлюць ноту пратэсту амбасадару ЗША ў Беларусі Кролу, а то і ў Вашынгтон.

Прэцэдэнт ёсьць. Вось актывістка "Хартыі'97" Натальля Каляда за разьмяшчэньне сваіх артыкулаў на сайце гэтай арганізацыі 3 лютага была аштрафаваная на 20 базавых велічыняў (350 тыс. рублёў, альбо $160). Пракуратура палічыла, што такая дзейнасьць ёсьць парушэньне адміністрацыйнага кодэксу. Бо "Хартыя'97" афіцыйна не зарэгістравана, а сайт у сеціве трымае.

## Навіны выжываньня

У студзені ў Беларусі адбылося падвышэньне мінімальнага заробку. Цяпер у месяц ён складае ажно 83 тысячы рублёў! ($38,5), мінімальны заробак у гадзіну атрымліваецца 490 рублёў ($0,23). Дапамога па беспрацоўі складае 24 тысячы 700 рублёў у месяц ($11,5).

На канец сьнежня сярэдні налічаны заробак (без выплаты падаткаў) у Беларусі склаў 299,9 тыс. рублёў ($139). Каб атрымаць "чысты" заробак, трэба ад пазначаных сум адняць прыкладна 11%. Крыху вышэйшы налічаны заробак у рабочых і службоўцаў - 313,7 тыс. рублёў ($146). Ніжэйшы заробак у Віцебскай вобласьці, вышэйшы - у Менскай і сталіцы. У Менску налічаны заробак складаў 335 тысяч рублёў ($155,5).

Зь лютага падвышаецца таксама і памер пэнсіяў. У сярэднім яны павялічацца на 18,5%, мінімальныя працоўныя - на 12,6%.

Такім чынам, мінімальная працоўная пэнсія ў месяц складае 72 тысячы 580 рублёў ($33,7), сярэдняя паводле ўзросту будзе складаць 140 тысяч 300 рублёў ($65,1).

Спэцыялісты вырашылі, што ў лютым пражытачны мінімум у Беларусі складае 113 тысяч 190 рублёў ($52,5) у месяц. Але большасьць вяскоўцаў, а таксама пэнсіянераў мае заробкі й пэнсіі значна ніжэйшыя. Такіх пэнсіянэраў толькі ў Менску дзясяткі тысяч. Ды й астатнім іх аднагодкам ня соладка ў гарадах, дзе даводзіцца плаціць за камунальныя паслугі (кватэра, газ, электрычнасьць) ад 50 да 100 тысяч рублёў у месяц у залежнасьці ад кватэры.

*Уласны карэспандэнт*

## Беларускі транзыт

Беларускі ўрад атрымаў адтэрміноўку ў справе санкцыяў з боку Міжнароднага зьвязу аўтатранспарту, які аб'ядноўвае бальшыню эўрапейскіх аўтаперавозчыкаў. Цягам гэтага часу Савет міністраў мусіць паўплываць на Дзяржаўны мытны камітэт з тым, каб мытнікі ўзгадніл свае пазыцыі з краінамі, якія маюць да Беларусі прэтэнзіі. Галоўная зь іх тычыцца грузаў, якія ідуць праз Беларусь паводле ўніфікаванай транзытнай працэдуры: тавар, які грузіцца ў краіне адпраўленьня пад наглядам мясцовых мытнікаў, павінен быць скіраваны ў краіны прызначэньня без дадатковых праверак у транзытных пунктах. Менавіта гэты пункт беларускія мытнікі рэгулярна ігнаруюць. Пра гэта сьведчыць і статыстыка актыўнасьці: у 2000 годзе сканфіскавана грузаў на 16 мільёнаў даляраў, за 2003 год - ужо 70 мільёнаў даляраў.

Са скаргамі ў Міжнародны зьвяз аўтатранспарту на дзеяньні беларускіх мытнікаў зьвярнуліся Летува і Польшча.

Тэрміновыя кансультацыі 28 студзеня паміж кіраўнікамі мытных камітэтаў Расеі й Беларусі пакуль адтэрміналі аналягічныя захады з расейскага боку, але Масква абураная дзеяньнямі беларускіх мытнікаў: практычна ў кожным другім выпадку такія праверкі завяршаюцца канфіскацыяй грузаў.

## Летувіскія і латыскія МАЗы

Менскі аўтамабільны завод, які адносна пасьпяхова дзейнічаў дзякуючы пратэкцыяніцкай падатковай сыстэме, губляе рынкі збыту. Прычына - страта галоўнага козыру, якім былі невысокія кошты пры адносна добрай якасьці. З далучэньнем суседзяў Беларусі да Эўразьвязу пачынаюць дзейнічаюць адпаведныя мытныя падаткі на беларускую прадукцыю - 22%. Цяпер кошты вырастаюць настолькі, што пакупнікі адмаўляюцца набываць машыны. Каб захаваць прадпрыемства, МАЗ вымушаны пакідаць Беларусь.

Стратэгі МАЗу пераносяць вытворчасьць у Латвію і Летуву. Выробленая там прадукцыя будзе лічыцца "зробленай у Эўразьвязе", і ня будзе абкладацца высокім падаткам на імпарт. Такім чынам, беларускі пратэкцыянізм захаваў прадпрыемства і рабочыя месцы для Літвы і Латвіі, а не Беларусі.

Партнэр МАЗу ў Латвіі "Alkom - Trans" пляную ў першы год сабраць ня меней за 100 МАЗаў, якія ўжо будуць не беларускія, а латыскія. У Летуве адзін з чатырох прадстаўнікоў МАЗу, таксама пачынае канвеерную вытворчасьць летувіскіх МАЗаў. Магчымасьці будуць разьлічаныя на вытворчасьць 750 цяжкавозаў у год. Мадэлі летувіскіх МАЗаў ужо маюць сэртыфікат і плянуюцца да рэалізацыі ў Эўропе.

( Яшчэ нядаўна 51% акцыяў МАЗу мела нямецкая кампанія MAN. Цяпер MAN мае 9% акцыяў, 41 % - аўстрыйская кампанія TIV, 40% акцыяў мае МАЗ і 10% - "Інфабанк".)

*Падрыхтаваў Максім АЎСЕЕЎ*

# Крамлёўскі газавы шантаж

Сярэдзіна зімы. У Беларусі вялікія марозы. І тут здарылася такое, чаго ніколі нідзе ні з кім у міжнародных адносінах не было. Па надуманых прычынах Масква аб'явіла аб рашэньні адключыць падачу газу ў Беларусь.

Каб была больш зразумелая ўся подлая нізасьць расейскага шантажу, нагадаю, што па прынятых міжнародных правілах, у выпадку канфліктнай сітуацыі паміж бакамі, падача газу ня можа быць адключаная пасярод зімы. Бо гэта раўназначна раптоўнаму ваеннаму ўдару, ужываньню зброі масавага зьнішчэньня супраць мірнага насельніцтва.

Рашэньне Масквы не вынікае з рэальнай эканамічна-фінансавай сітуацыі, якая склалася ў дачыненьнях. Цынічнае і нахабнае вымагальніцтва Расеі абумоўлена толькі палітычнымі меркаваньнямі Крамля і накіраванае на стварэньне цяжкасьцяў у эканоміцы Беларусі, на разбурэньне яе сыстэмаў дзяржаўнага функцыянаваньня, што мусіла-б аблегчыць Маскве магчымасьць захопу беларускай нацыянальнай маёмасьці, тэрыторыі й інкарпарацыі нашай краіны ў Расею. Гэтая агрэсіўная палітыка супраць Беларусі аб'яўленая прэзыдэнтам Расеі Пуціным летам 2002 году пры нікчэмным маўчаньні краінаў АБСЭ.

Газавая агрэсія Масквы на беларускае грамадзтва і беларускі народ выклікана жаданьнем націснуць на Лукашэнку і прымусіць яго не гандляваць, а здаць беларускую нацыянальную маёмасьць расейцам задарма. Тут выяўляецца крымінальны характар дачыненьняў паміж хаўрусьнікамі. Газавая атака на Беларусь ёсьць дакладным зьлепкам (што да прынцыпу) газавай атакі расейскага КГБ у тэатры на Дуброўцы ў Маскве, калі забілі 130 чалавек, і ніхто не панёс пакараньня. Прынцып расейскай энкавэдысцкай палітыкі заўсёды аднолькавы: галоўнае - мэта, жыцьці людзей значэньня ня маюць.

Расейцы разам з Лукашэнкам рыхтавалі шантаж Беларусі ўжо з 1994 году. Менавіта ў 1994-95 гадох па загаду Лукашэнкі й змове яго з Газпрамам былі пераведзеныя на газ усе беларускія кацельныя цеплацэнтраляў, што раней працавалі на салярцы, якую выпрацоўвалі два нашыя вялікія нафтакамбінаты. Пераход на расейскі газ узадражыў усё на 30% (салярка была нам таней і выгадней). Лейцы газавага шантажу аказаліся ў Маскве, бо рэжым Лукашэнкі спэцыяльна не стараўся аб іншых крыніцах рэсурсаў энэргіі для дзяржавы.

Энэргетычная прывязка да Газпраму, як да адзінай крыніцы, супярэчыла стратэгічным інтарэсам Беларусі. Такія дзеяньні магчымыя толькі ў выніку карупцыі на дзяржаўным узроўні, альбо ў выніку нацыянальнай здрады й дзейнасьці супраць нацыянальных інтарэсаў Беларускай дзяржавы.

На фоне грубай агрэсіўнай палітыкі Крамля супраць Беларусі вялікі жаль выклікае згодніцкая пазыцыя караўніцтва АБСЭ і Эўразьвязу, якая паддаецца націску нямецкай дыпляматыі й практычна спрыяе расейскай агрэсіі.

Ні пра якую "дэмакратыю" тут ужо няма і гаворкі, справа йдзе толькі пра інтарэсы.

У той-жа час, гэта вельмі памылковая пазыцыя, якая ня ўлічвае небясьпекі для Эўропы з боку дыктатарскай кагэбоўскай Расеі, якую па фальшывай звычцы й насуперак фактам працягваюць называць "дэмакратычнай".

Відаць, здача Чэхаславаччыны Гітлеру ў 1938 годзе нічаму эўрапейскую палітыку не навучыла. Тым часам здача Беларусі пад гэбоўскі рэжым Масквы можа мець для Эўропы ня менш разбуральныя наступствы, чым аншлюс Чэхаславаччыны.

Расейскі газавы шантаж павінен наглядна ў тысяча-каторы раз паказаць беларусам, што такое для нас ёсьць імпэрская аўтарытарная Расея. Шантаж нам ня страшны. Але для прадухіленьня яго - у Беларусі павінен быць беларускі гаспадар, беларускі прэзыдэнт і беларуская незалежная ад Масквы ўлада.

*Зянон ПАЗЬНЯК*

# Заля Васіля Быкава

У Старых Дарогах, у музэі выяўленчага мастацтва з фонду Анатоля Белага створаная першая ў Беларусі заля, прысьвечаная Васілю Быкаву. У ёй разьмясьціліся звыш 200 экспанатаў. Гэта кнігі пісьменьніка зь ягонай асабістай бібліятэкі, выдадзеныя на розных мовах сьвету, чатыры прыжыцьцёвыя алейныя і графічныя партрэты Васіля Быкава мастакоў Яўгена Ціхановіча і Анатоля Крывенкі, шмат графічных працаў мастакоў Юрыя Герасіменкі, Уладзімера Немагая, Георгія Паплаўскага, створаных па матывах твораў пісьменьніка. У экспазыцыі ёсьць і малюнкі самога Васіля Быкава, гэта дом, дзе ён нарадзіўся, дом, дзе жыў, царква, у якой яго хрысьцілі й школа ў якой ён вучыўся. У залі прадстаўлена шмат асабістых рэчаў пісьменьніка: ручкі, якімі ён пісаў свае творы, запісная кніжка, дыплёмы ўзнагародаў, тэлефонны даведнік Саюзу пісьменьнікаў з адзнакамі Быкава, тэатральныя афішы спэктакляў, пастаўленых па ягоных творах.

Вялікую частку экспазыцыі займаюць фатаграфіі пісьменьніка зь сябрамі, калегамі,ведамымі дзеячамі. Фатаздымкі аформленыя тэматычна на стэндах пад шклом, а таксама ў альбомах. Вялікую частку экспанатаў перадала залі жонка Васіля Быкава.

*Сьвятлана БЕЛАЯ*



*На здымку: фрагмэнт экспазыцыі залі Васіля Быкава.*

# Беларуская замежная прэса і радыё




Беларуская Служба Польскага Радыё ўваходзіць у структуру Радыё Паленія - Праграмы для Замежжа грамадзкага Польскага Радыё, якая працуе на 7 мовах: польскай, беларускай, украінскай, расейскай, ангельскай, нямецкай і эспэранта.

Беларуская Служба Польскага Радыё была заснаваная 12 гадоў таму - 13 студзеня 1992 году, але першая перадача ў беларускай мове выйшла ў этэр ужо 15 сьнежня 1991 году ў праграме Польскае Службы. Некалькі месяцаў раней былі заснаваныя Летувіская і Украінская Службы (першая зь іх, нажаль, ужо не існуе). Заснаваньне гэтых трох службаў было рэакцыяй Польскага Радыё на ўзьнікненьне за ўсходняю мяжою Польшчы незалежных дзяржаваў.

Цягам гэтага часу ў працы Беларускай Службы Польскага Радыё заўважаліся істотныя зьмены. Па-першае, павялічыўся этэрны час з 25 хвілінаў у першы год дзейнасьці да 2,5 гадзінаў сёньня. Апрача кароткіх хваляў (частоты 5995 і 7180 kHz, а 16.30 і 19.30 паводле беларускага часу) перадачы Беларускай Службы Радыё Паленія можна слухаць па спадарожніку Eutelsat II F-6 Hot Bird (13 градусаў усходняе даўжыні, частата 11.474 GHz, гарызантальная палярызацыя, нясучая гуку 7.38 MHz, а 7.30, 16.30, 19.30 і 23.30). Паўгадзінная перадача знаходзіцца таксама ў сыстэмах Real Audio і Windows Media, якія можна слухаць у Эўропе і ЗША. Дастаткова увайсьці на інтэрнэтную старонку Беларускае Службы www.radio.com.pl/polonia і слухаць у выгадны для сябе час. Навіны ды некаторыя іншыя перадачы, якія аднак не адлюстроўваюць цэлага этэру, можна таксама прачытаць. Дзьве перадачы Беларускае Службы рэтрансьлююцца замежнымі станцыямі: Радыё з-над Віліі (а 23.30) і "Балтыйскімі Хвалямі" (а 24.00).

У першы пэрыяд дзейнасьці Беларуская Служба інфармавала слухачоў у Беларусі перадусім пра найважнейшыя падзеі з розных галінаў жыцьця польскае дзяржавы, пра польска-беларускія ўзаемадачыненьні ды пра сытуацыю нацыянальных меншасьцяў: беларускай у Польшчы й польскай у Беларусі, сыходзячы з пазыцыяў, што сапраўдная інфармацыя дазволіць узбагаціць веды беларусаў пра Польшчу і такім чынам прычыніцца да лепшага ўзаемаразуменьня.

Разам са зьменаю палітычнае сытуацыі ў Беларусі, з прыходам да ўлады прэзыдэнта Аляксандра Лукашэнкі, калі Беларусь пачала адыходзіць ад сваіх нацыянальных каштоўнасьцяў, імкнучыся адначасова да інтэграцыі з Расеяй і ўводзячы пры гэтым інфармацыйную блякаду, Беларуская Служба ўзяла на сябе дадатковы абавязак - паведамленьня пра падзеі ў Беларусі ды пра трактоўку беларускіх уладаў міжнароднай грамадзкаю думкаю. Некаторы адсотак этэрнага часу прызначаецца таксама дасягненьням беларускай дыяспары ў Вялікабрытаніі, ЗША й Канадзе.

Ад самага пачатку Беларуская Служба Польскага Радыё старалася наладзіць супрацоўніцтва зь іншымі СМІ, якія працуюць на беларускай мове. Вельмі карыснай зьяўляецца супраца з Рэдакцыяй Нацыянальных Меншасьцяў Радыё Беласток. Калегі зь Беластоку перадаюць інфармацыю пра падзеі на Беласточчыне, дзе кампактна жыве вялікая колькасьць беларусаў, а таксама пра памежнае польска-беларускае супрацоўніцтва.

Актыўна прадстаўлялася супраца і з мэдыямі ў Беларусі. Ужо пасьля першага году існаваньня наладзілася супраца з радыёстанцыяй "Беларуская Маладзёжная", якая працягнулася да моманту ліквідаваньня станцыі. Супольна з "БМ" быў падрыхтаваны радыёмост Варшава-Менск з удзелам тагачаснага прэзыдэнта Польшчы Леха Валэнсы й старшыні Вярхоўнага Савету Рэспублікі Беларусь Станіслава Шушкевіча. Аднагадзінную перадачу можна было слухаць адначасова па Першай Праграме Польскага Радыё ды на хвалях "Беларускай Маладзёжнай".

Пасьля ўзьнікненьня ў Беларусі першага беларускамоўнага прыватнага Радыё 101,2 слухачы маглі на яговых FM-хвалях слухаць таксама перадачы Беларускай Службы Польскага Радыё. Апрача гэтага ў 1996 годзе на хвалях Радыё 101,2 прайшоў Польскі Дзень, дзякуючы чаму шырэйшае кола слухачоў у Беларусі пазнаёмілася з дэмакратычнымі пераўтварэньнямі ў заходняй суседкі. Аказалася, што гэтая ініцыятыва была ўспрынятая менчукамі вельмі цёпла.

Калі Радыё 101,2 было зачыненае ўладамі, журналісты гэтай станцыі маглі прэзэнтаваць сваю паўгадзінную праграму ў эфіры Беларускай Службы Польскага Радыё. Такая сытуацыя працягвалася да моманту стварэньня ў Польшчы Радыё Рацыя. Разам з узьнікненьнем Радыё Рацыя супраца аднак не спынілася, толькі зьмяніўся ейны характар - наступіў абмен некаторымі гуказапісамі.

Беларуская Служба супрацоўнічала таксама з Радыё "Сталіца", у эфіры якога раз на тыдзень ішоў 5-хвілінны агляд падзеяў у Польшчы.

Госьцем Беларускае Службы ў 1997 годзе (на 5-годзьдзе дзейнасьці) быў таксама дырэктар Беларускай Службы Радыё Свабода Вячка Станкевіч. Дарэчы, цёплыя адносіны паміж абедзьвюма службамі існуюць па сёньняшні дзень.

Беларуская Служба Польскага Радыё падтрымлівае таксама кантакты зь незалежнаю прэсаю ў Беларусі, якая час ад часу зьмяшчае інфармацыю пра час і хвалі нашых радыёперадачаў, а таксама публікуе некаторыя перадачы.

Польскае Радыё мае ў Беларусі свайго карэспандэнта, які працуе ня толькі для Інфармацыйнага Радыёагенцтва, але таксама і для Беларускай Службы. Апрача гэтага, БСПР мае сваіх карэспандэнтаў у абласных гарадох Беларусі ды ў Вільні.

Беларуская Служба Польскага Радыё выдае таксама бюлетэнь "Камунікат", які ў накладзе 500 асобнікаў высылаецца слухачам у Беларусі. З "Камунікатам" можна пазнаёміцца ў інтэрнэце: www.kamunikat.net.iig.pl

Праграма Беларускай Службы Польскага Радыё разнародная. Закранаюцца ў ёй пытаньні палітыкі, эканомікі, адукацыі, культуры... Слухачы дацэньваюць гэтую разнароднасьць і самі прымаюць удзел у некаторых перадачах: у дыскусіях, конкурсах, канцэрце віншаваньняў.

Беларуская Служба Польскага Радыё карыстаецца даверам слухачоў, якія пішуць ня толькі пра свае меркаваньні ці заўвагі, датычныя палітычна-грамадзкіх тэмаў, але і пра асабістае жыцьцё. Вельмі кранальныя тыя лісты, у якіх слухачы дзякуюць за працу, за сапраўднае і шматбаковае асьвятленьне праблемаў з галіны польска-беларускіх сувязяў, ці палітычнай сытуацыі ў Беларусі. У Віцебску існуе Клюб Слухачоў БСПР, які выдае бюлетэнь "Радыёвуха". З праведзенага апытаньня вынікае, што бальшыня слухачоў гэта маладыя (ад 20 да 40 гадоў) адукаваныя людзі.

Лісты ад іх зьяўляюцца сьведчаньнем таго, што Беларуская Служба Польскага Радыё, прынамсі ў некаторай ступені, прычыняецца да ліквідаваньня інфармацыйнае блякады ў Беларусі, прыбліжае вобраз сучаснае Польшчы ды вучыць пашаны да нацыянальных беларускіх традыцыяў, гісторыі й культурнае спадчыны.

***Ніна БАРШЧЭЎСКАЯ***




***На здымку: Аляксандар Навіцкі - намесьнік кіраўніка; Натальля Грышкевіч-Шымковяк; Анна Дамбкоўская; Ніна Баршчэўская - кіраўнік; Ялянта Сьмялоўская; Тамаш Саевіч. Супрацоўнікамі рэдакцыі таксама зьяўляюцца: Валеры Саўка і Эльвіра Богдан-Сянкевіч.***

# Гісторыя газэты "БЕЛАРУС"

Беларускія грамадзкія арганізацыі Канады заўсёды былі бліжэй да амэрыканскіх за ўсе іншыя. Тут, верагодна, адыгралі ролю і гэаграфічная бліжыня, фактычная адсутнасьць межаў, і актыўнасьць канадыйскіх беларусаў.

Напачатку 60-х гадоў у Канадзе склалася прыкрая сытуацыя зь беларускаю прэсаю: выданьне "Беларускага Эмігранта" было спыненае (як тады казалі, у сувязі з набыцьцём будынку), "Бацькаўшчына" пачала выходзіць значна радзей, а хмараўскі "Беларускі Голас", натуральна, ня мог прэтэндаваць на агульнаграмадзкае кансалідацыйнае выданьне.

У зьвязку з гэтым старшыня Галоўнай Управы БАЗА Ст. Станкевіч даслаў Галоўнай Управе Згуртаваньня Беларусаў Канады (ЗБК) ліст (20 чэрвеня 1963 г.), дзе ў прыватнасьці пісаў наступнае: "Новая Галоўная Управа БАЗА, выбраная на 10-м Кангрэсе БАЗА 1-га й 2-га чэрвеня сёлета, аднэй з галоўных сваіх мэтаў пастанавіла зрабіць усе магчымыя натугі, каб выдаваць сталы друкаваны прэсавы ворган Беларусаў у Амэрыцы". Сябрам ЗБК было прапанавана далучыцца да гэтай акцыі з тым, каб "Беларус" выходзіў або двойчы на месяц, або ў павялічаным памеры, ды быў бы агульным ворганам на ўсю Паўночную Амэрыку.

Згода была атрыманая, паразуменьне дасягнутае, рэдактарамі канадыйскай старонкі былі прызначаныя Кастусь Акула з Антонам Маркевічам, сфармаваная новая рэдакцыйная калегія ў Нью Ёрку (рэдактар В. Тумаш, сябры - Н. Арсеньнева, Я. Запруднік, В. Кіпель, А. Шукелойц). Назоў газэты пакідаўся той самы, а для канадыйскай бачыны прыдумалі загаловак "Весткі з Канады", які намаляваў М. Рачыцкі. Былі праблемы з пошукамі друкарні: толькі дзьве з усіх маглі браць на машыну адразу чатыры бачыны кірылічнага тэксту - расейская "Новое Русское Слово" ды украінская "Свобода". Але свае газэты ў іх друкаваліся штодзённа і таму замоў збоку ня бралі. Нарэшце знайшлі яшчэ адную украінскую друкарню, Э. Сарахмана "East Side Press", на Першай Аве., якая згадзілася друкаваць газэту павялічаным фарматам (шэсьць бачынаў) накладам 1000 асобнікаў за 280 даляраў. 250 асобнікаў прызначалася для разсылкі ў Канаду, рэшта - Амэрыка, Аўстралія, Эўропа, СССР. Згодна дамоўленасьці з друкарняю, палова рукапісаў мусіла быць дасланаю за 14 дзён перад выхадам нумару, чацьвёртая частка за 8 дзён, апошняя частка за 4 дні перад выхадам нумару.

Трэба сказаць, што праблемы з канадыйскаю рэдакцыяй пачаліся бадай з першых выпускаў, спрацавалі й асабістыя амбіцыі, і неаднолькавы ўзровень падрыхтаванасьці да рэдакцыйнай працы. Прэтэнзіі К. Акулам у лістах да Ст. Станкевіча выказваліся розныя: "Бачу, ізноў маеце прэтэнзіі, што пішам аб наваселлях ці аб ахвярах на помач некаму. Нам незразумела, чаму гэта мае абніжаць вартасьць газэты. Маса людзей нашых цікавіцца гэткімі навасьцямі ня менш, чым выстаўкамі аб Скарыне" (9.12.1963), "Цяпер-жа я рашчараваны.. Перш мае быць, як пішаце, гутарка з дырэктарам Бэлэр-Менску, пасьля зь нейкім кубінскім рэвалюцыянэрам.. Выходзячы з вышэйсказанага "Гутарку зь пісьменьнікам К. Акулам" прашу не зьмяшчаць у "Беларусе" наагул. Будзьце ласкавы адаслаць мне яе назад, а фатаграфію, як не жадаеце трымаць, то таксама адашліце. У кожным выпадку забараняю яе зьмяшчаць у прэсе. Што да мовы, то буду трымацца такой мовы, якой карыстаўся раней" (24.12.1963).

Газэта жыла нялёгкім жыцьцём. Грошаў на выданьне не ставала: спадзяваньне на дапамогу канадыйскіх падпішчыкаў не апраўдалася. Управа БАЗА мусіла выдаць адмысловы зварот: "Вельмі паважаны Спадар/Спадарыня! Нам цяжка паверыць, што Вы ня хочаце атрымліваць адзінай беларускай газэты ў Амэрыцы "Беларуса", якая стала інфармуе Вас аб беларускім жыцьці ў вольным сьвеце і ў паняволенай Бацькаўшчыне, а таксама насьвятляе палітычнае палажэньне ў цэлым сьвеце. Нам таксама ня верыцца, што Вы шкадуеце сумы 4 даляраў у год на падпіску за газэту тады, калі невялікая група ахвярных суродзічаў сваімі месячнымі ды адмысловымі складкамі фінансава ўтрымліваюць "Беларуса". У траўні 1964 году Вітаўт Тумаш адмовіўся ад рэдактарства, матывуючы адмову занятасьцю на працы й хваробаю жонкі. Яго замяніў Ст. Станкевіч.

Адбыліся зьмены ў канадыйскай рэдакцыі таксама: да К. Акулы з А. Маркевічам дадаўся Барыс Рагуля, які ўзначаліў рэдкалегію. Праўда, на гэта Акула зазначыў Станкевічу ў лісьце: "Прашу ў усіх справах, зьвязаных зь "Весткамі", кантактавацца са мной. Калі будзеце пісаць да Рагулі ці навет да Маркевіча, дык гэта адно страта часу... Хачу папрасіць, каб перасталі цэнзураваць мой матар'ял" (4.06.1964).

Трэба адцеміць, што няпросты, ваяўнічы характар Кастуся Акулы напоўніцу выяўляўся ня толькі ў прыватным ліставаньні. Пісьменьнік лічыў, што беларускай літаратуры не стае жанру фэльетону, таму уласным "За-

***Працяг на бачыне 5***




# Весткі й Паведамленьні

нью ёркаўскага аддзелу Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня

Viestki j Paviedamlenni

Belarusan American Association, Inc.

166-34 Gothic Drive, Jamaica, N.Y. 11432 Сусьветнае сеціва: www.baza-belarus.org №2 (457)


## Студзеньскі сход

Чарговы сход нью ёрскага аддзелу Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня адбыўся 10 студзеня. Напачатку старшыня аддзелу сп. Віталь Зайка азнаёміў прысутных з падзеямі ў Беларусі за апошні месяц. У прыватнасьці ён распавёў пра канфлікт вакол паставак расейскага газу ў Беларусь і заканчэньне тэрміну кантракту з расейскай манаполіяй "Газпрам". Эўразьвяз плянуе ўвядзеньне санкцыяў супраць Беларусі за парушэньні правоў прафсаюзаў і перашкоды ў расьследваньні справы зьніклых палітыкаў. У Менску перавыдадзеная кніга успамінаў пра ГУЛаг а. Яўзэпа Германовіча (Вінцука Адважнага) "Кітай-Сібір-Масква". Каталіцкі сьвятар а. Германовіч быў таксама беларускім паэтам і грамадзкім дзеячом.

Сп. Вячка Станкевіч распавёў пра апошнія навіны ў справе падтрымкі Акту аб Дэмакратыі ў Беларусі - 2003, які цяпер знаходзіцца на разглядзе ў Сэнаце ЗША. Сп. Станкевіч заклікаў прысутных далучыцца свае галасы, паставіўшы подпісы пад адмыслова падрыхтаванымі лістамі да сэнатараў з заклікам падтрымаць Акт аб Дэмакратыі ў Беларусі й зрабіцца ягоным су-спонсарам. Тыя прысутныя, хто не зрабіў гэта папярэднім разам, пажадалі далучыцца да гэтай акцыі.

Сп. Валеры Дворнік распавёў аб удалым сьвяткаваньні Новага году, якое ладзіла кіраўніцтва аддзелу ў Брукліне і заклікаў моладзь актыўней далучацца да заплянаваных імпрэзаў.

Затым адбылося знаёмства з гасьцямі сходу. Былі зробленыя аб'явы й паведамленьні. Пасьля афіцыйнай часткі прысутныя мелі магчымасьць пагутарыць зь сябрамі й знаёмымі пры кубку кавы й пачостцы.

*Віталь ЗАЙКА*

## Намесьнік Акінчыца

*Працяг з бачыны 1*

мёнкам і мною. Мы заўсёды сустракаліся, калі ён прыяжджаў з Бэрліну, сядалі разам ды абмяркоўвалі навіны. І ён казаў, што быў вельмі расчараваны ў немцах. Ня быў ён фашыстам, а быў змагаром за інтарэсы беларускага народу і вызваляў нас з палону, каб выратаваць ад сьмерці, бо ў лягерох для ваеннапалонных людзі гінулі тысячамі. І ўсе, каму ён дапамог вельмі ўдзячныя яму. Аднаго гэтага дастаткова, каб цаніць высока чалавека. А ён-жа яшчэ даваў ваеннапалонным беларускую загартоўку, адукацыю нацыянальную.

Акінчыц зразумеў, што не адзін вораг у беларускага народу, ня толькі Саветы, але і гітлераўцы такія-ж ворагі, як Сталін. І вось тут паўстае праблема: што-ж далей рабіць?

Мы лічылі, што весьці антыкамуністычную прапаганду сярод насельніцтва вельмі выгодна зараз. Ніхто не замінае. Другая рэч - што ня трэба ўсхваляць немцаў! Беларускае насельніцтва часта сустракала немцаў у першыя дні вайны з хлебам-сольлю.

Гэта была цяжкая работа - весьці прапаганду. І небясьпечная. Мы прасілі Акінчыца, каб кожны, хто едзе ў Беларусь, перамяніў сваё прозьвішча, і каб людзей пасылалі не туды, дзе яны жылі да вайны, а туды, дзе ніколі не былі раней. Мы ведалі, што Саветы вельмі хутка пачнуць паляваць за намі, а як ня змогуць злавіць, пачнуць шантажаваць: маўляў, схопім бацьку, матку тваіх ды расстраляем.

Першую групу павёз сам Акінчыц, я застаўся ягоным заступнікам на гэты час. Усяго было 3 ці 4 выпускі, ня памятаю дакладна, гэта прыкладна 60-70 чалавек. Акінчыц меў сувязі зь беларускім кіраўніцтвам у Менску. Праз іх, праз Кушаля наладжвау сувязі з беларускімі арганізацыямі й прыстройвалі нашых людзей на працу, дзе яны маглі-б вялі прапаганду. Адзін, напрыклад, быў прыкамандзіраваны да Беларускай Вайсковай школы. Але Акінчыц у нейкай ступені не давяраў кіраўніцтву ў Менску, да асобных ставіўся адмоўна, казаў, што яны былі ня лепшымі людзьмі. Відаць, прычыны ляжалі яшчэ ў даваенным жыцьці. Асабліва складаныя адносіны былі з М. Шкялёнкам, лепшыя з Ф. Кушалем.

Акінчыц быў у прыгнечаным настроі, разьлічваў, што немцы дапамогуць беларусам вызваліцца ад Саветаў, быў вельмі праняменцкім, праз гэта і разышоўся з беларускім актывам, які не давяраў яму і лічыў чалавекам немцаў. Але ягоныя пагляды на сытуацыю мяняліся. Сваю памылку ён зразумеў даволі хутка, толькі нешта мяняць ужо было позна.

Яго забілі ў Менску. Акінчыц спыняўся заўсёды ва Ул. Казлоўскага, якога ведаў з даваенных часоў. Аднойчы ў дзьверы пагрукалі, Казлоўскі папытаў, хто. Адказалі, што прыйшлі з газэты, прынесьлі матар'ял на перагляд. Казлоўскі адчыніў, уварваліся двое з пісталетамі, адціснулі яго ўбок - і да Акінчыца. Застрэлілі ў ложку. Пахавалі яго ў Менску, а дзе, ня ведаю. Пазьней забілі й Казлоўскага.

Я быў арыштаваны ў 1944-м годзе і мяне, пэўна, расстралялі-б, каб не начальнік беларускай сакрэтнай паліцыі, які па сваіх паглядах быў антысавецкім і антыгітлераўцам, ён разумеў нашае становішча. Імя ягонае - Мікалай Алферчык. Сам ён зь Пінску, але ў Беларусь прыехаў з Смаленскага СД, нейкі час быў пры Астроўскім. Ён расьсьледаваў нашую зь Зямёнкам справу (немцы нас арыштавалі разам у Бэрліне і прывезьлі для допытаў у Менск). І Алферчык сказаў, што такія людзі, як мы, яшчэ патрэбныя беларускаму народу, і вызваліў нас. Дапамагло яшчэ тое, што я зь ягонай сястрою вучыўся разам у інстытуце. А арыштаваных было багата, і ўсе загінулі. Нас ён забраў з сабою і апошнім цягнікам вывез у Бэрлін.

А прычына арышту была вось у чым. Адзін з хлапцоў з маёй групы, Шаўчэнка, зьвязаўся з партызанамі. Відаць, яго шантажавалі. А працаваў ён у вайсковай школе і падначальваўся начальніку менскай паліцыі, цяпер ня памятаю імя. І вось таму генэралу даносяць, што Шаўчэнка не зьяўляецца на працу. Праз які час генэрал на вуліцы заўважае хлапца, загадвае спыніць машыну ды пытаецца, чаму на працы няма. Шаўчэнка адказвае, маўляў, мяняў хату, заняты моцна быў, але ўжо высвабадзіўся і заўтра вярнецца працаваць. Генэрал пытаецца, а дзе тая хата. Недалёка тут, адказвае Шаўчэнка, хадземце пакажу. Яны пайшлі. А Шаўчэнка завёў іх у нейкі двор, выхапіў пісталет, застрэліў і ўцёк. Увесь Менск падняслі на ногі, яго схапілі. І немцы, відаць, палічылі, што ўсе нашыя прапагандысцкія курсы былі супрацьнямецкімі. Нас зь Зямёнкам арыштавалі ў Бэрліне і прывезьлі ў Менск на страту.

З жывых засталіся, відаць, толькі я ды паэт Міхась Кавыль.

## Гісторыя газэты "БЕЛАРУС"

*Працяг з бачыны 4*

піскам Яўхіма Крайняга", напісаным у традыцыях А. Мрыя ды Л. Крывічаніна, надаваў асаблівую ўвагу. Яго надта абыходзіла цэнзура, асабліва калі рабілася тое не ў мастацкіх мэтах. У сваіх фэльетонах Акула апісваў жыцьцё і характары беларускай грамады ў Канадзе, не шкадуючы "тараканаў у саладусе", "кірпачоў", крытыкуючы бязьдзейсных, "нацыянальнае мяшчанства", робячы характары ня проста сьмешнымі - пазнавальнымі.

Зразумела, багата каму ў Таронта тое не спадабалася. Пасьля неаднаразовых, але безвыніковых спробаў націснуць на аўтара ды на рэдактара, 27 чэрвеня 1965 году Галоўная Ўправа ЗБК за подпісам старшыні ЗБК А. Грыцука і сакратара Р. Жук-Грышкевіч вынесла наступную пастанову: "Дзеля таго, што Галоўная Ўправа ЗБК лічыць газэту "Весткі з Канады", а часткова й газэту "Беларус" у іх зьмесце дэструкцыйнымі, і дзеля таго, што рэдкалегія "Вестак з Канады" ігнаруе пастановы Галоўнай Управы ЗБК і паступае самавольна - Галоўная Ўправа пастанавіла: зь днём 27 чэрвеня завесіць выдаваньне "Вестак з Канады"; завесіць рэдкалегію "Вестак з Канады" у яе чыннасьцях; зьняць з ЗБК усякую адказнасьць - маральную й матар'яльную за газэту "Беларус".

Нягледзячы на пастанову, бачынка з навінамі з Канады ў газэце працягвала існаваць, толькі Кастусь Акула пісаў у "Беларус" ужо не як "адміністратыўная адзінка", а як незалежны пісьменьнік і сваёй пазыцыі не мяняў.. Падобная сытуацыя, напэўна, дратавала Ўправу ЗБК, што вылілася ў востры ліст А. Грыцука: "Вельмі паважаны спр Акула. Дзякую Вам за ліст і інфармацыю. Наагул у нашай рэдакцыі завяліся вялікія непаладкі. Ня ведаю, ці ўдасца ўтрымаць канадыйскае выданьне "Беларуса". Калі хтось сядзіць у балоце, то ён часта ня бачыць, што робіцца кругом. Таксама й з Вамі й Ст. Станкевічам. Больш паўгода таму я пісаў Ст.Станкевічу, што пры гэткай пастаноўцы рэдакцыйнай справы газэта "Беларус" правяліцца. Бязумоўна, ён нашмат разумнейшы й навет на гэта нічога не сказаў і не зрэагаваў... Я Вам таксама мінут 15 даказваў аднойчы, што такім рэдагаваньнем канадыйскае старонкі Вы заваліце газэту. Вы стаіце на памылковых ідэалягічных асновах. Гэта мала толькі быць "незалежнікам". Да гэтага трэба мець ідэалягічныя правідловыя асновы будучай Беларусі. У Вас паняцьце вольнай Беларусі вельмі й вельмі розьніцца ад іншых, а ўжо стратэгія вызваленчай барацьбы фатальная. Напрыклад, выкінуўшы 5-10 сказаў або адпаведна зьмяніўшы іх, "Гараватку" можна сьмела пасылаць да друку ў Менск... Калі Вам залежыць на канадыйскую старонку "Беларуса", то пастарайцеся спаткацца са мною ў нядзелю. Каб ратаваць нешта, я буду патрабаваць ад Вас і Ст.Станкевіча мець кантролю ўсяго матар'ялу пра канадыйскія справы на канадыйскай бачыне й не на канадыйскай".

Натуральна, ані Акула, ані Станкевіч на тое не пайшлі. Замест афіцыйных "Вестак з Канады" як воргана ЗБК пачалі выдавацца прыватна ў "Беларусе" "Канадыйскія Навіны".

А 16 сьнежня 1968 году рэдкалегія газэты атрымала пастанову Галоўнай Управы ЗБК (М. Ганько, старшыня, і Р. Жук-Грышкевіч, сакратар), дзе паведамлялася, што на паседжаньні Ўправы ЗБК было вырашана ад студзеня 1969 г. "перастаць быць супольнікам і спаўвыдаўцом газэты "Беларус".

Гэтак беларуская грамада была пазбаўленая свайго голасу - фактычна да самага нядаўняга часу, калі высілкамі маладой эміграцыі была заснаваная новая газэта беларусаў Канады.

*Рубрыку вядзе Лявон ЮРЭВІЧ*

**Наступны сход нью ёркаўскага аддзелу БАЗА адбудзецца 14-га лютага а 7-й гадзіне вечара ў Фундацыі імя Пётры Крэчэўскага па адрасу:**
***166-34 GOTHIC DR., JAMAICA***
***Даезд цягніком падземкі F да 169th Street.***

### Уплаты ў нью ёркаўскі аддзел БАЗА:

**Складкі:**

| | | | |
|---|---|---|---|
| В. Ядзіновіч | 40 | С. Казлоў | 30 |
| В. Дворнік | 30 | Ю. Міхед | 30 |
| В. Зайка | 30 | А. Орса-Романо | 30 |
| А. Івановіч | 30 | С. Піражок | 30 |
| В. Івановіч | 30 | А. Сокал | 30 |
| Н. Казакова | 30 | А. Хадорык | 30 |

**Шчыры дзякуй!**

**Уплаты ў аддзел дасылайце скарбніку на адрас:**
*Valeri Dvornik*
*172 Millspring Rd.*
*Manhasset, N.Y. 11030*
*Чэкі выпісвайце на **Belarusan American Association.***

# Рэцэнзіі

**Сонца Святое - Хрыстос: Зборнік беларускай духоўнай паэзіі. - Мінск. Біблейнае таварыства, 2001, 191 с.**

Магчыма пра такую кніжку марыў на эміграцыі Юрка Віцьбіч, зьбіраў матар'ял, каб падрыхтаваць кнігу-хрэстаматыю пра хрысьціянскі элемэнт у беларускай літаратуры. Нажаль, зьдзейсьніць задуманае пісьменьнік не пасьпеў. У падсавецкай Беларусі на той час выходзілі іншыя кнігі. “Зборнік беларускай духоўнай паэзіі”, які ў 2001 годзе ў Менску выдала Біблійнае таварыства, ды яшчэ анталёгію беларускай хрысьціянскай паэзіі "Насустрач Духу" (Мінск 2001), можна лічыць іх першымі ластаўкамі ў гісторыі беларускага друку. У пэўнай ступені яны запаўняюць прагал сярод сьвецкіх выданьняў рэлігійнага характару, у якіх на Бацькаўшчыне поруч з адмысловымі малітоўнікамі й катэхізмамі заўсёды мелася патрэба.

Зборнік складаецца з прадмовы й двух разьдзелаў. Кожны зь іх распачынаецца фрагмэнтамі псальмаў. У першы разьдзел пад назваю "Ад прадзедаў спакон вякоў..." увайшлі фрагмэнты з паэтычных твораў Кірылы Тураўскага, Рыгора Цамблака, Яна Вісьліцкага, а таксама творы Францішка Скарыны, Міколы Гусоўскага, Сімяона Полацкага. Заключную частку разьдзелу склалі вершы пачынальнікаў новай беларускай літаратуры Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча, Зосі Манькоўскай і Францішка Багушэвіча. З твораў слаўтых "нашаніўцаў" Якуба Коласа, Янкі Купалы, Алеся Гаруна, Максіма Багдановіча, Цішкі Гартнага пачынаецца другі й асноўны разьдзел з назваю "Хрыстос Уваскрос!". Беларускую эміграцыю рэпрэзэнтуюць вершы Натальлі Арсеньневай зь яе слаўтым гімнам-малітваю "Магутны Божа", лірычныя імпрэсіі Алеся Салаўя, Масея Сяднёва, Янкі Золака, Ларысы Геніюш. Мясцовы паэтычны Парнас прадстаўлены імёнамі Ўладзімера Караткевіча, Рыгора Барадуліна, Сяргея Грахоўскага, Пятруся Макаля, Сяргея Законьнікава, Мар'яна Дуксы, Артура Вольскага ды інш. З маладзейшых зьмешчаныя творы Ірыны Багдановіч, Ігара Пракаповіча, Андруся Дылюка, Анатоля Кудласевіча, Паўла Саковіча, Сяргея Давідовіча і інш. З мастацкай творчасьці паэтаў-сьвятароў ёсьць вершы Якуба Мартусэвіча, архібіскупа Полацкага, Казіміра Сваяка (псеўданім кс. Канстанціна Стэповіча), а таксама паэтычныя творы нашых сучасьнікаў - пратаярэяў Леаніда Чэрняка, Іаана Міцько і манаха Мікалая (Алега Бембеля). Кожны ўзяты верш, як і ўся кніга ў цэлым гучыць і ўспрымаецца як велічная малітва-сымфонія за нашую Бацькаўшчыну-Беларусь.

Варта адзначыць экумэнічны характар і самога выданьня, і ягоных аўтараў, сярод якіх прадстаўнікі праваслаўных, каталікоў і пратэстантаў. Можна пашкадаваць, што зборнік выйшаў невялікім накладам - 2500 асобнікаў, і верыць у інтэнцыі ўкладальнікаў гэтай карыснай і патрэбнай кніжкі, што яна апраўдае сваё прызначэньне-пакліканьне - выкліча на роздум, а перад усім абудзіць ў людзкіх душах добрае і паставіць нас, чытачоў, тварам да Бога. Каб у зваротах і малітвах да Усемагутнага і мы, слухаючы, змаглі пачуць.

*Юры КАМІНСКІ*

## "Новае Жыцьцё"

У 90-х гадох мінулага ХХ ст. у Беларусі пачалі ўзнаўляцца легэндарныя выданьні: "Наша Ніва", "Свабода", "Калосьсе", "Хрысьціянская Думка" ды іншыя. Было ў тым імкненьне ня проста далучыцца да чужое славы, а працягнуць традыцыі, павязаць пакаленьні. Падобныя інтэнцыі, верагодна, валодалі й Віктарам Кавалеўскім, які выдаў чарговы, №2 (26), 2004 нумар часапісу "Новае Жыцьцё", што друкаваўся ў Мэльбурне-Сыднэі ў 1950-59 г.г.

На 92 бачынах нямала матар'ялаў, арыгінальных і перадрукаў: "Разьвітаньне зь Сьв. п. Паўлам Гузам", "Памяці Вольгі Бурнос", "Вялікасьць ролі духоўных лідэраў на эміграцыі" (пра а. М. Бурноса), вытрымкі з кнігі Г. Сагановіча "Нарыс гісторыі Беларусі", навіны Беларускага Аб'еднаньня ў Паўднёвай Аўстраліі й Беларускага Гістарычнага Згуртаваньня, байка "Як пеўніка півам аблілі", пераклад апавяданьня Артура Кларка "Нянавісьць", артыкулы "Лібэральная дэмакратыя", "Перасупіць мяжу", верш А. Салаўя "Беларусі", "Марш Беларускай Краёвай Абароны", "Ліст Беларускага народу таварышу Лукашэнку" ды іншае. Перадрукаваны таксама з нашае газэты артыкул Н. Гардзіенкі "Беларусы й беларускі Аўстраліі", суправаджаны "Карэкцыямі" В. Кавалеўскага, якім напісаная большасьць старонак выданьня.

З улікам вялікай колькасьці якасных здымкаў трэба пагадзіцца з сказаным у прадмове: "Праблемы жыцьця беларускай эміграцыі патрэбна будзе дасьледваць. Для гэтай працы такое выданьне як гэты часапіс будзе вельмі спадручным". Сапраўды, першы нумар адноўленага выданьня дае інфармацыю да стварэньня падобнае гісторыі. Цікавыя рэлігійнаыя зьвесткі, якія насьвятляюць нутраныя канфлікты й робяць зразумелымі падзеі мінулага. Наагул, у дыяспары й мэтраполіі заўважаецца рост цікавасьці да гісторыі эміграцыі: у апошнім нумары канадыйскага "Беларускага Слова" распачатая публікацыя пра гісторыю ЗБК, а ЗБС "Бацькаўшчына" рыхтуе кнігу пра парыскую "Моладзь". Дай, Божа, ім усім і сп. Кавалеўскаму, які ўзваліў на сябе патрэбную, але няпростую справу ды якую мо працягнуць іншыя, адрадзіўшы "Божым Шляхам", "Шыпшыну" ці "Зьвіняць званы Сьвятой Сафіі".

Кожны, хто зацікавіўся часапісам "Новае Жыцьцё", хацеў-бы падпісацца ці дапамагчы - відавочна патрэбныя карэктары, стыль-рэдактары, - можа зьвязацца з В. Кавалеўскім: *viktor@picknowl.com.au*.

*Ант. ЯСЕВІЧ*

# Посьпехі нефарматнай музыкі

**Для даведкі: фармат - гэта сістэма самаабмежаваньня радыёпрад'юсараў пры выбары ратацыйнай структуры пэўнай FM-станцыі. Цікава, што ў Беларусі нефарматным зьяўляецца ўсё беларускамоўнае, хоць у радыёэтэры Польшчы, Швэцыі, Чэхіі, Украіны такая музыка гучыць.**

Распачаўшы на старонках газэты "Беларус" новую рубрыку музычных рэцэнзыяў, я пачаў атрымліваць ад чытачоў лісты з пытаньнямі: ці шмат у Беларусі беларускамоўных сьпевакоў ды рок-гуртоў, хто выдае іхнія альбомы, як гэтую справу падтрымлівае дзяржава беларуская?

Што да апошняга, дык дзяржава тут чамусьці выбрала для сябе ролю цельнай каровы, аддаўшы ўвесь радыёэтэр дойнаму апарату расейскага шоў-бізнэсу, які перакачвае ў Расею ў выглядзе ганарараў грошы беларускіх рэклямадаўцаў. Беларускія артысты трапляюць у ратацыю ў выглядзе выключэньня, г. зн. ня толькі бясплатна для іх, але і за хабар для акупантаў беларускага радыёэтэру. Гэтая дойка Беларусі стала настолькі прыкметнай і адчувальнай, што нават Лукашэнка двойчы пагражаў пальчыкам бонзам радыёэтэру, але тыя аказаліся мацнейшымі й працягваюць працаваць на Расею.

У такіх умовах рызыкоўна было-б займацца музычным выдавецтвам у краіне, дзе народ нібыта згодны, бо зацята маўчыць. Але пры маўчаньні гэтым прыкметным становіцца акурат пашырэньне музычна-выдавецкай дзейнасьць ў Беларусі. Калі раней незалежныя лэйблы "ПанРэкордс", "Каўчэг", "БМАgroup", "Boutique Kamila" і г.д.) выдавалі за год па аднаму-два дыска, дык у 2003-м толькі "БМАgroup" павялічыла свой каталёг на 12 пазыцыяў. Зь іх і пачнем наш агляд.

Блюзавы гурт "Крама" - гэта музычны брэнд №1 у краіне. Летась ён засьвяціўся ў рэестры музычных падзеяў тройчы. Разам з новым лэйблям "Arlo Music" фірма "БМАgroup" паўторна выпусьціла ў сьвет альбом "Хавайся ў бульбу" (паводле "Рок-Каранацыі-2001" - лепшы альбом году). А яшчэ-ж быў юбілей надзвычай унікальнага рэлізу "Крамы": 10 гадоў таму, у 1993 брытанская фірма "RTX records" выпусьціла альбом "Vodka On Ice" беларускага гурта "Крама". Гэта быў першы прарыў беларускага року ў вольны сьвет і ў сфэру высокіх тэхналёгіяў. Да 10-годзьдзя быў паддрыхтаваны выпуск гэтага альбому ўпершыню на радзіме (ягоны каталёгавы нумар CD BMA 026). Ад ангельскага выданьня гэты выпуск адрозьніваўся толькі дадаткам некалькіх рарытэтных бонусаў у праграме. Акрамя таго гітарыст "Крамы" Сяржук Трухановіч выдаў сольны альбом "Нараджэньне таямніцы", які ўяўляе сабою рэдкі ўзор віртуозных інструмэнтальных пасажаў.

А лідэры больш вострага крыла беларускай рок-сцэны - "N.R.M.", выпусьціўшы год таму блiскучы альбом "Дом культуры", цяпер аддаліся так званым сайд-праектам: фронтмэн Лявон Вольскі з пашыранай кампаніяй супольнага праекту "Крамбамбуля" выдалі яшчэ больш папулярны зборнік музычных пародыяў "Каралі раёну", дзе зухавата пасьміхаюцца і зь "Верасоў", і з былога суайчыньніка Юрыя Антонава, і з колісь модных чужынскіх куміраў кшталту Марка Бэрнэса, "Сіняй птіцы" ды нават "ZZ top". Не застаўся за бортам творчае актыўнасьці й гітарыст "N.R.M." Піт Паўлаў, які стварыў уласны сайд-праект "Garadzkija" і выдаў ягоны дэбютны альбом, дзе ўпершыню загучаў і ягоны голас, і ўласныя беларускія вершы.

Але гэта ня ўся эпапея "N.R.M."-2003 у беларускай дыскаграфіі. Шумна і пасьпяхова прайшла прэзэнтацыя трэйцяга беларускага трыб'юта пад назваю "Віза "N.R.M.". Шмат славутых і новамодных калектываў па-свойму перасьпявалі на ім найбольш папулярныя песьні культавай беларускай каманды. А былі сярод іх і каралі фолькмадэрну ("Палац", "Kriwi"), і віртуозы блюзу ("P.L.A.N.", "Імпэт", "B.N."), і зоркі папсы, і дэнс-музыкі ("Краскі", "Цягні Штурхай", "LongPlay"), і авангардысты року ("Partyzone", "Angry Rose 2000"). Усе такія розныя, але аб'ядналі іх песьні "N.R.M."

Удзельнікі такіх супольных праектаў потым больш сьмела выходзяць на сур'ёзны музычны рынак з самастойнымі рэлізамі. Пра альбомы гурта "P.L.A.N." мы пісалі ўжо ў папярэднім нумары, але акрамя іх гурт засьвяціўся і ў рэпавым працягу стылістычнай CD-энцыкляпэдыі "Пасадзіў DEAD RAPку", і ў шэрагу гіт-парадаў з новымі творамі, якія плянуюцца ў будучы рэліз кшталту "P.L.A.N.-акустык". Такая плынь цяпер модная ў Беларусі, а альбом пад назвай "Пёсэнкі самотнага беларусіна" будзе базаваны на фальклёры Вялікага Княства Літоўскага ці ягоных стылізацыях.

Што да стылістычных CD-энцыкляпэдыяў, дык у 2003 выйшаў ужо трэйці ейны выпуск, прысьвечаны беларускаму музычнаму экстрыму і мае назву "Hard Life - Heavy Music II". Увесь айчынны мэтал-авангард з Горадні ("Твар"), Гомлі ("The Regent"), Бабруйску ("Straight Land"), Рэчыцы ("Apocryphal"), Барысава ("Soncavarot") і г. д., ня гледзячы на экзатычныя назвы, гучыць на беларускай мове. Тут можна пачуць нават неверагоднае дэз-мэталёвае прачытаньне Багдановічавай "Пагоні".

І зноў-жа сам зборнік стаў удалым стартам для далейшай сур'ёзнай выдавецкай ініцыятывы, для разьвіцьця старых і новых зорак нашай мэтал-сцэны. Хутка пасьля яго выйшлі ў сьвет паўнафарматныя альбомы менскіх мэтал-гуртоў "Зьніч" ("Запаветы Апошняга Старца") і "Deadmarsh" ("Грані").

Ды ня толькі экстрэмалы дазваляюць сабе ініцыятыву. Пайшла за апошні год наперад і беларуская бардаўская песьня. Ды якія легендарныя імёны ў ёй! Другі ўжо альбом на высокатыражных CD выпусьціў гарадзенец Віктар Шалкевіч ("Геаграфія ВКЛ і ваколіцаў"), а гамяльчанка Вальжына Цярэшчанка, якую ўсе беларусы вольнага сьвету называюць Залатым Голасам Беларусі, нарэшце сабрала ў CD "Хтось крануўся крылаў" усе свае найлепшыя гіты (пачынаючы з "Запяі мне песьню") і новыя песьні ў шыкоўнай студыйнай вэрсыі. Выданьне стала магчымым дзякуючы ініцыятыве швэдзкага прад'юсара Дэвіда Пэрсана, які, пачуўшы гэты Божы дар у Швэцыі, жахнуўся якасьцю ранейшага касэтнага збору канцэртовых запісаў, які здолеў набыць. "н зрабіў тое, чаго ня здолелі беларусы: замовіў прафэсыйную студыю і захаваў цуд для нашчадкаў.

Барду Эдуарду Акуліну ўдома ўдалося апанаваць прыстойную студыю Белдзяржтэлерадыёкампаніі, дзе ён запісаў альбом "Напачатку было слова", які выдала фірма "Vigma" Гэта па сутнасьці greatest hits з таго, што раней выдавалася толькі на касэтах, і пара новых песень.

Не забытая выдаўцамі й папулярная плынь world music. Лідэр тут гомельскі гурт "Стары Ольса", які пасьпеў выдаць на фірме "Каўчэг" ужо тры альбомы, пасьля пераезду ў Менск перайшоў на "БМАgroup" і выпусьціў летась канцэртовы альбом "Шлях". А ў Польшчы тым часам паўторна выйшаў дыск "Легенды Вялікага Княства", у праграме якога акурат і дэбютаваў "Стары Ольса" ў дыскаграфіі. Побач зь ім творы легендарнага "Полацкага сшытку", беларускіх кампазытараў XVI стагодзьдзя В. Длугарая, В. Бакфарка выконваюць менскі хор "Унія", баранавіцкі "Contrdance"ды іншыя.

Фірма "West records" працягвае сэрыю перавыданьняў для беларускага слухача замежных беларускіх рэлізаў. Пасьля апэратыўнай рээдыцыі альбома "Журавы" гурта "Троіца", дайшла нарэшце чарга і да сольнага альбома лідэра калектыву Івана Кірчука "Спадчына загінулых вёсак", які яшчэ ў 1999 годзе выдаваўся ў Галяндыі.

Выдаў свой альбом і паэт Адам Глёбус ("Каўчэг", 2003), дзе песьні на ягоныя вершы выконваюць "Песьняры", "Сябры", "Новае неба", "Garadzkija", а дуэт "Аляксандра і Канстанцін" другім сваім альбомам "Сойка" ("Master records", 2003) пераканаў, як цудоўна спалучаецца беларускі фальклёр з экзатычнымі рытмамі кантры.

Новыя дыскі "Ліцьвіноў", "Partyzone", Зьміцера Вайцюшкевіча, перавыданьні супольных праектаў "Народны альбом", "Сьвяты вечар" не залежваецца ў крамах, а знаходзіць спажыўца. Народ выразна паказвае, што ён хоча слухаць. І зусім ня тое, што яму прапаноўваюць, аддадзеныя чужынцам, радыёфарматы. Народ слухае сваё.

*Вітаўт МАРТЫНЕНКА*




Жыў ды быў на сьвеце новы пан (гэта нешта накшталт нашага шляхціца, толькі паскудны). І жыў гэты пан ня дзе-небудзь, а ў нашым Беларускім сьвеце, ды быў заўсёды ў сьвеце іншым - ня нашым. Меў пан усё, што ў ягонай ранзе належыцца: маёнтак (праўда, наймовы), стайню (праўда, аднастойлавую), абшар (праўда, паветраны), ды сялянаў (тузіны са два), а яшчэ прыслугі рознай (чалавек зь дзесяць).

Быў ён, як цяпер кажуць, зь перадавых (і на перадок, даруй Божа, ня кволы, і наперад ісьці ў розных, выбачайце, пражэктах ахвочы) - адно слова "новы". І што толькі гэты новы пан не задумае - усё сяляне ды прыслуга зробляць.

Захочацца яму, да прыкладу, дах заместа страхі паставіць - піша сялянам загад, а прыслугу над імі цівунамі-падпанкамі ставіць. Толькі сяляне страху на дах заменяць, у пана бац(!) новая ідэя: дах заместа страхі, ці адно на другое зьверху. Упіраюцца людцы, шчыруюць, пагатоў што пан і капейчыну заплоціць, і чарку паднясе, а бабам дык яшчэ пердавую ўзнагароду выпіша ды сам-жа яе і ўплішчыць. Вось толькі на грудзі ці куды ў іншае месца - ня ведаю, можа пра "іншае мейсца" і брахня. Чалавечы-ж язык, самі ведаеце... Яму толькі волю дай. Пан-жа волі языкам не даваў, злыя людзі кажуць, бо не трымаў і свайго языка вольным. А як-жа йначай: маршалку лізнуць трэба? - трэба, асэсару варта? - варта, спраўніку ня лішне? - ня лішне. І называлася ў пана гэткая языковая няволя (далі Божа ня хлушу - сам чуў!) дупля, маці, я.

А яшчэ быў той пан да дзявок ахвочы. Як вызырыць новую наложніцу (ну, тую што на ложа), дык старую - на адпачынак (але так, каб пры воку была), а новую альбо сярод старых знойдзе, альбо з-за мяжы выпіша. Думаеце ня ехалі? Яшчэ як ехалі! Ледзь не пазадушваліся за тую капейчыну.

Урэшце пачаў наш пан чуцца вышэй ад шляхціца. Едзе бывала на сваёй аднастаеннай жаробцы, а яго падданыя па дарозе то на вясельнага енерала, то на кшчонага бацьку ці проста на пагулянку з лазьняй ды басэйнам (гэта такая лужына ў двары, дзе ў той самай вадзе гамузам плешчуцца) клічуць. Заедзе пан, пабудзе, чарку возьме, а дома цапель адмысловы нататнічак і ўсё туды: хто і як увіхаўся, хто якія жарты строіў.

Але пачалося ўсё зусім ня з жартаў, хаця мусіць-жа зь нечага. І было тое на Каляды.

Акурат за тыдзень перад Багатай куцьцёй навалілася на пана чарговая маркота. "У шляхту мяне не бяруць, - думаў пан на пуста пазіраючы ў вакно, - а з паноў я вырас яшчэ як пугу быдлячую на людзкую замяніў. Тытулаў усіх, якіх у маім стане магчыма - нажыў, брошак, што праўда пры тым не дастаў, але за зьмену страхі на дах ад маршалка радзінны выезд на воды з поўным пансыёнам выслужыў, ізноў-жа за зьмену даху на страху - падзяку з адмысловым запісам на сакрэтнай прэзыдэнцкай скрыжалі, за языковую, так-бы мовіць, палітыку - членам у ворганы залічаны... Што-б тут яшчэ такое ўдумаць?"

А на вуліцы маразы трашчаць, дзеці зь вялікіх сумётаў на санках катаюцца, мужыкі на страху новы дах валакуць, у суседзяў калядная парася лебядзіную песьню вішчыць - да сьвята рыхтуецца. І ўсё пану відаць, бо вокны ў хаце празрыстыя, без належных узораў, як у тых заморскіх краёх, дзе і сьвіней ні ядуць, і водах з поўным пансыёнам чабохтаюцца. "А некалі-ж было, - падумаў пан, - прачнесься раніцай, прадыхаеш на марозным вакенку дзюрачку і такі чароўны сьвет праз яе пабачыш, як у казцы пабудзеш, а потым ад вакна адхінесься, а сьвет той у хату да цябе зазірне, то завеяй, то ледзяшом да зямлі, а то і птушыным вокам".

Пачаў пан неяк міжволі на сваё празрыстае вакно хукаць ды ў запацелай шыбіне дзюрачку праціраць. Працёр. Глянуў, а на вуліцы маскаль каляднага гусака пячэ. І так пану гусака захацелася, што аж сківіцы зводзіць. "Во дзе рацыя! - Залямантаваў пан. - Во дзе ідэя! А то выдумалі - сьвіньню на Каляды! Хіба так цілівізаваныя людзі жывуць?!" (Гэта, думаю, ён пра тых, што цілівізаны маюць). "Я, - крычыць - у Ангельшчыне быў, дык там - таксама гусак!"

Выскачыў ён на вуліцу, забег у хлеў і давай сьвіньню панскім лякаваным чаравіком у лыч пярыць. Вішчыць жывёліна, просіцца, маўляў, лепш пад нож ці шылам у глотку, а пан не зважае. Прыбеглі на лямант слугі, пасталі ў дзьвярох, маўчаць, баяцца каб самім ратунку крычаць не давялося. А пан біў-біў, біў-біў, зьнясілеўся ды й рынуў у кучу з-пад сьвіньні нагрэбтую. Акуляры з носу зваліліся, ляжаць, пазіраюць зьдзіўлена на гаспадара, а той як у валентавай хваробе самапляжыцца, пэцкае свой заморскі гарнітурчык ды кашульку пад чорным стужакам белую. Але такі заціх. Відаць, ня надта на вогах сілы набраўся.

Узялі тады слугі ягонае цельца саслаблае, з воздуху на паветра вынесьлі, белым сьняжком кругленькі тварык абцерлі, ды свае вушы наставілі, маўляў, што загадаеце. А той сеў, вачыма лыпае, а потым як гаркне: "Гуся хачу!"

"Як гуся, - падумалі слугі, - калі мы гусей яшчэ ў Мартынаў дзень паелі, а маладыя дык толькі гадуюцца?" Падумаць падумалі, ды сказаць не адважыліся. Акульбачылі коніка, на мапу глянулі: да Ангельшчыны дарога ня блізкая, можам не пасьпець, а вось да Расейшчыны - самае тое будзе. Хацелі паслаць у дарогу найразумнейшага. Прыкінулі хто - мужык. А мужык, нават самы разумны, добрага гусака ня выбера, а купіць, які найперш трапіцца. Ну і паслалі бабу.

Прыехала баба ў Расею а там гусакоў-гусакоў! І траха ня ў кожным двары рэжуць. А ў тых, дзе ня рэжуць, скубуць. А ў іншых пехтаюць, ды сям-там ужо і ядуць. Аднэй рукой ядуць - другой новых рэжуць. Крыві-і-ішча сьвішча як бягунка ў мядзьведзя пасьля спалоху. А над усім гэтым такое душапляжнае га-га-га нясецца, такі роспачны стогн і енк у паветры з даўкім пахам пехтаці мяшаецца, што бабе аж млосна стала.

"Але, што-ж, - думае яна сабе, - хіба і не такое зьведалі! Лебядў елі ды ў лапцёх хадзілі - і нічога! Абы вайны не было..." Дала яна ўсім паклон "з Калядамі", ды давай па дварох хадзіць, прыглядацца. Хадзіла, хадзіла і выхадзіла ладнага тлустага, не крыклівага. Аддала за яго пляшку Старадарожскай ды тры абаранкі Смаргонскія, а яшчэ за капейку рацэпту пехтаці купіла, бо хто там ведае што ў каляднага гусака класьці трэба, не Мартынскі-ж.

Вярнулася баба дадому ў самыя што ні на ёсць Каляды, а пан як на вугольлі сядзіць, вось-вось галінкі на скваркі параблянца - так маскоўскага гусака хочацца. Убачыў ён бабу і насустрач. Ледзь штаны заморскія зь нянацкай папружкі не зваліліся. Выдраў у прыгаломшанай бабы кошык з гусаком, сеў зь ім у гурбіну пасярод дарогі ды й давай тонкую шыю гладзіць, бялюткія пёркі перабіраць, а ў самога сьліна аж да зямлі. Рашчуліўся гусак ад такой Беларускай гасьціннасьці ды й чмокнуў пана ў нос, на якім адразу-ж крывавая гуля надзьмулася. Глянуў пан на гусака пакрыўджаным позіркам, а потым і кажа да бабы:

- Чым ты яго пехтаць зьбіраесься?

- Ды во, - адказвае баба, - рацэпту за капейку купіла. Тут, паночку, і рыжа чорная й белая, і гарэшкі валоскія, ды курага нейкая, ды чабарок, ды салерачка, а яшчэ морквачка ды...

- Хопіць! Хопіць! - Закрычаў пан - Ніякай ні салерачкі, ні халерачкі! Што пра нас людзі скажуць? Укладзі ты туды, баба, тоўчанай бульбы, ну і хіба солі драбочак.

Зрабіла баба ўсё, як пан загадаў, а тут і Багатая куцьця ў празрыстыя вокны бадзёрым марозікам грукнула. Запрасіў пан да сябе на сьвята і маршалка, і асэсара са спраўнікам, ну і прыслужнікаў з хаты ня выправіў - хто хацеў застаўся, хто не хацеў мог сваё парася дома есьці, пра што ў сакрэтным нататнічку шма-а-ат занатавана.

Папілі важныя панскія госьці, пагулялі, пану за гасьціннасьць і пахапліваcьць брошку паабяцалі, прыслужнікаў па плячох паляпалі ды да дому сваіх індыкоў з памаранчамі й журавінамі есьці паехалі.

Прайшоў з таго часу год, ці болей - сказаць не бяруся. Ехаў я неяк праз землі нямецкія, і застала мяне ноч у слаўным месьце Вюрцбугу. Хацеў быў заначаваць на вагзале але, дзякуй Богу, згадаў пра сваё шляхецтва, якое дзед яшчэ некалі са Старажоўскага кірмашу (што ў Менску) едучы згубіў, ды я праз семдзесят гадоў ажно пад Полацкам знайшоў. Вядома, прывыкаць цяжка, але трэба...

Дык вось. Пайшоў я з гэтым сваім адроджаным гонарам у гатэль. Зьняў нумар ды й падаўся на вячэру. Толькі сеў за стол, бачу: той самы пан з парай прыслужнікаў таксама ў лістарану сунецца. Навастрыў я вушы (хоць крыху і сорамна, што стары, а як новы шляхціц паводжуся) ды й слухаю. А пан з прыслужнікамі як загагае што твой калядны гусак. А тыя вакол яго, ды ўсё: "Барин, барин..." І бачу я - нутро ў пана нашае, бульбяное, а ўсё, што на вонкі - такая маскальшчына, што сапраўды пачынаеш сумнявацца: як-жа там у сярэдзіне, ці не пагніла, часам, бульбачка?

**Сяржук СОКАЛАЎ-ВОЮШ**

# Лісты ў рэдакцыю

Прайшоў яшчэ адзін год рынкавага сацыялізму ў Беларусі. Якімі дасягненьнямі мы можам ганарыцца? Чаго чакаць ад 2004 году? Калі судзіць па навагодняму выступу А. Лукашэнкі, галоўным дасягненьнем мінулага году было тое, што не было вайны. Улады ганарацца прыславутай беларускай стабільнасьцю. Аднак нікога яна болей ня радуе. Стабільнасьць у няспынным руху да жабрацтва, банкрутцтва, стабільнасьць у тым, што кожны год вядзецца барацьба за ураджай і расьце страх згубіць апошняе, што нават нармальны мужчына ня можа пракарміць сям'ю і гарантаваць будучыню сваім дзяцям?

Пасьля таго, як прэзыдэнцкія выбары 2001 году адкрылі дарогу сёньняшняй уладзе да лёгкіх перамогаў, яна канчаткова скінула маску хоць нейкай дэмакратычнасьці й пачала перасьледаваць, нікога не баючыся, незалежныя газэты, недзяржаўныя арганізацыі, прадпрымальнікаў.

У інтэрв'ю нямецкаму часапісу "Шпігель" А. Лукашэнка паведаміў: "Я ніколі не закрываў ніводнай газэты." А на самой справе спыніў дзейнасьць газэтаў "Свабода", "Навіны", "Пагоня", "Новая газэта Смаргоні". Правільна , сказалі немцы, у вас для гэтага есьць міністар інфармацыі, падатковая паліцыя, суды... У дадатак да гэтага недапусканьне да друкарняў, запалохваньне падпісчыкаў.Паспрабуй выжывы ў такіх умовах!!!

Канчаткова атрымаў катастрофу і тытанік беларуска-расейскай інтэграцыі. Хранічнае несупадзеньне асобных інтарэсаў Лукашэнкі й Пуціна ўжо ня толькі кінула гэты тытанік на айсбэрг, але-ж і памяркоўнай славянскай рукою напалову запоўніла трумы гэтага карабля ледзяною акіянскаю вадою. Яшчэ пару сустрэчаў на вышэйшым узроўні й усё зьнікне пад хвалямі.

Ня спросту капітан ляйнэру пад назваю Беларусь час ад часу расплываецца ў пазытыўных камэнтарах да прадстаўнікоў заходніх дзяржаваў. Атрымліваючы граматы ад амбасадара ЗША нечакана для ўсіх паведаміў, што "мы вельмі паважаем Злучаныя Штаты". Аднак наведваючы рэгіёны Беларусі, Лукашэнка палівае гразьзю ЗША. Капітан ведае, калі ня прымае берег расейскі - трэба плысьці да берага турэцкага. Іншага не дадзена. А ці ня позна? Помніце байку, у якой пастушок два разы жартаваў аб тым ,што на статак авечак напалі ваўкі. Два разы вяскоўцы зь віламі беглі ратаваць авечак, а на трэці раз, калі ваўкі сапраўды напалі, пастушку ўжо ніхто не паверыў. Няўжо Лукашэнка ня чуў гэтую байку?

А авечак усяроўна шкада!!!

**Ігар К.**

Паважаныя чытачы газэты "Беларус", зьвяртаюся да вас з асабістаю просьбаю... Амаль 90 гадоў таму назад, недзе у Амэрыцы загінуў мой дзед Касьцюкевіч Кастусь сын Мікалая. Прыблізна у 1913-1914 годох ён, разам са сваімі землякамі, паехау на заробкі й працавау у капальнях. Але здарылася аварыя, і ён зь іншымі загінуу. У ягонага брата захаваўся нейкі адрас... *Бакса Вітвержан, ЗША* , але мы ня упэунены, што ён сапраудны. У свой час мая бабуля расказвала, што тыя, хто езьдзіу у Амерыку на заробкі, у гутарцы узгадвалі пра Нью-Ёрк. Магчыма, шлях тых, хто туды езьдзіу па вярбоуцы, пачынауся з гэтага гораду? Майму дзядулю у той час было ня больш 25 гадоў, а мая бабуля засталася адная з маленькаю (1 год) дачкою на рукох (маёй маці). Вельмі хацелася-б больш даведацца пра тыя падзеі, знайсці магілу дзядулі. Мабыць, ёсць зьвесткі у архівах пра гэтае здарэньне, тым больш, што пра тую аварыю была зьмешчаная інфармацыя у нейкай тагачаснай мясцовай газэце. Магчыма, газета была расейскамоунаю... Быццам-бы, у той час пра гэта чытау адзін зь землякоу, які быў тады у ЗША.

Аднойчы я чытала кнігу пра беларусау у ЗША і падумала, што у маіх пошуках, магчыма, маглі-б мне дапамагчы такія ведамыя людзі, як Вітаут Кіпель і Янка Запруднік. Яны знаёмыя з архівамі й г. д. Ці я памыляюся? І тым ня менш, паважаная рэдакцыя, надрукуйце мой зварот у газэце. Магчыма, хто-небудзь што-небудзь чуу ад сваіх дзядуляў пра той час і тыя падзеі, пра якія я хачу даведацца. У нас не было ніводнай фатакарткі дзядулі, мабыць, яна дзе-небудзь існуе...

А яшчэ я мару здабыць хоць жменю зямлі з магілы дзеда і занесьці на магілы маіх матулі й бабулі. Відаць, так жадае і дзядуліна душа. Памяць аб ім жыве у маёй душы, хоць я ніколі яго ня бачыла...

**ВЫШЭДКА Галіна**
*вул. Казінца, 76, кв 62*
*г. Менск BELARUS*

# Віталь КАЖАН
## (9.X.1916 - 17.I.2004)



Жыцьцё чалавека вымяраецца працавітасьцю і адданасьцю высакароднай справе. З гэтага гледзішча жыцьцё сьв. пам. Віталя Кажана было поўным, багатым і прыгожым. Плён ягонай самаахвярнай працы ды працы ягонай жонкі, спн. Любы Кажан, застаўся ўвасобленым у дзецях, належна ўзгадаваных і адукаваных, ды ва ўзмоцненым стане беларускай нацыянальнай справы, якой нябожчык аддаваў увесь свой вольны час у якасьці доўгагадовага Скарбніка і сябры Прэзыдыюму Рады БНР.

Віталю Кажану давялося прайсьці складаны жыцьцёвы шлях ад роднае Дзісьненшчыны да амэрыканскага гораду Стамфарду ў штаце Канэтыкэт, дзе ён паваханы. Апошнія гады ён жыў у гарадку Пэнінгтане ў Нью-Джэрзі, але ў Стамфардзе прайшла большая частка ягонага жыцьця ў Амэрыцы.

Нарадзіўся Віталь у невялікай вёсцы Балбекі над прыгожаю рэчкаю Мнютай. Там ён вырас у сям'і прадпрыймальнага селяніна, які, здабыўшы асьвету, працаваў сакратаром ў земскага начальніка. Маці Віталя паходзіла з заможнай сялянскай сям'і. Бацькі мелі 20-гэктарную гаспадарку.

Пад польскай акупацыяй бацька спачатку быў выбраны войтам гміны, але пасьля трох гадоў яго зволілі за нястачу "польскасьці" і ён заняўся гандлем.

Віталь скончыў у Дзісьне польскую гімназію, адбыў вайсковую службу ды ў 1938 годзе падаўся ў афіцэрскую школу, куды быў прыняты не зважаючы на праваслаўную веру. Пасьля польска-нямецкай вайны працаваў настаўнікам у родных мясьцінах.

У жніўні 1942 году адбыў першыя курсы беларускіх афіцэраў у Менску, адкуль быў пасланы ў Браслаў для вядзеньня падафіцэрскіх курсаў для Беларускай Самааховы. Як ведама, немцы паставіліся да Самаахвовы адмоўна. У выніку гэтага Віталь працаваў пэўны час у Глыбокім сакратаром і заступнікам акругована старшыні Беларускай Народнай Самапомачы.

У сакавіку 1943 году на пастанову беларускага актыву, працаваў у Вялейцы загадчыкам беларускай канцылярыі пры нямецкай установе.

Беларусь пакінуў у чэрвені 1944 году. У Бэрліне працаваў у БЦР, браў удзел у рыхтаваньні беларускіх афіцэраў. У лістападзе 1944 году палкоўнік Кушаль прызначыў яго сваім ад'ютантам.

1 сакавіка 1945 году Віталь ажаніўся з Жэняй Кароль, якая парацавала ў канцылярыі палкоўніка Кушаля. А праз месяц, калі альянты дабівалі гітлераўцаў, Кажаном удалося перабрацца ў заходнюю частку краіны, каб не патрапіць пад савецкую акупацыю.

Пасьля некалькіх пераездаў зь лягеру ўцекачоў у лягер, Віталь Кажан, трапіў на пасаду заступніка камаданта лягернай паліцыі ў Шляйсгайме ля Мюнхэну. Там прабыў ад ліпеня 1946 па люты 1948 году. Пасьля пераезду ў лютым 1948 году ў беларускі лягер Остэргофэн выконваў абавязкі адміністратара газэты "Бацькаўшчына", а ад лістапада таго-ж году - яшчэ і абавязкі камаданта лягернай паліцыі. Быў сакратаром Беларускага Нацыянальнага Камітэту на Амэрыканскую зону Нямеччыны.

У кастрычніку 1948 году прайшоў спэцыяльныя курсы для камандантаў лягернай паліцыі ў горадзе Штутгарце, дзе ад імя ўсіх курсантаў вітаў жонку прэзыдэнта ЗША Элеанору Рузвэльт.

У чэрвені 1949 году, калі быў арганізаваны адзіны лягер для беларусаў у Розэнгайме, працаваў там бухгальтарам аддзелу прадуктаў ды аднačасна прайшоў курсы ангельскай мовы. Працаваў там-жа выкладчыкам пачаткаў ангельскай мовы ў беларускай школе.

Чацьвертая сэсія Рады БНР у Розэнгайме ў кастрычніку 1949 году надала Віталю Кажану становішча галоўнага Скарбніка Рады БНР. Гэтую адказную функцыю нябожчык выконваў з надзвычайнай працавітасьцю і сыстэматычнасьцю да самага канца свайго жыцьця, нават калі ўжо быў цяжка хворы.

У чэрвені 1950 году Віталь з жонкаю і дачушкай Ларысай вадаплавам прыбылі ў гаманлівы Нью Ёрк. Вясковаму сыну фабрычная праца не прыпала да сэрца. Праз год Кажаны перабіраюцца ў горад Стамфард у штат Канэтыкэт. Тут Віталь атрымаў працу ў добрай кампаніі, дзе і адпрацаваў на пасадзе прараба амаль трыццаць гадоў.

У сакавіку 1952 году Віталя напаткала трагедыя: жонка нарадзіла сына Аўгена, а пасьля родаў сама памерла.

У кастрычніку 1953 году Віталь ажаніўся зь Любай Пронькай, ранейшай знаёмай з Шаркаўшчыны. У іх нарадзіліся дзьве дачкі, Юля і Маргарыта.

Каб забясьпечыць чатыром дзецям вышэйшую асьвету, Віталь Кажан пачаў у 1954 годзе, у дадатак да фабрычнай працы, свой бізнэс - маляваньне дамоў навонкі й унутры. Гэта ён рабіў аж да 1984 году ў час адпачынку ды сьвяточнымі днямі. Усім дзецям Віталь з жонкаю забясьпечылі вышэйшую адукацыю. У сваім аўтабіяграфічным нарысе, апублікаваным у зборніку "Беларуская дыяспара як пасрэдніца ў дыялогу цывілізацый" (сэрыя "Беларусіка-Albaruthenica", Мінск, "Беларускі кнігазбор", 2001) Віталь піша: "Здаецца, што мы, я і мая спадарожніца Люба, можам ганарыцца сваімі дзяцьмі. Усе яны былі добрымі вучнямі й сёньня зьяўляюцца добрымі людзьмі. Таксама важнае, што яны жывуць у добрай дружбе-сяброўстве паміж сабою і нас бацькоў паважаюць і шануюць. І яшчэ - усе яны добрыя хрысьціяне і добра ведаюць, што яны беларускага паходжаньня, і вельмі важна, што ўсе яны з намі, бацькамі, гавораць толькі па-беларуску".

Сьв. пам. Віталь Кажан быў чалавекам здольным, працавітым і адданым сваёй сям'і ды свайму народу. Жыцьцё такога чалавека не канчаецца зь ягонай фізычнай сьмерцю. Сваім зыркім прыкладам ён застаецца жыць у сьведамасьці тых, хто яго ведаў, хто бачыў ягоную сумленнасьць і самаахвярную адданасьць высокаму ідэалу.

Абрад пахаваньня сьв. пам. Віталя Кажана выканаў сьвятар БАПЦ а. Вячаслаў у царкве Жыровіцкай Маці Божай у Гайленд-Парку. Ля пакрытай бел-чырвона-белым сьцягам труны разьвіталіся зь нябожчыкам выказваньнямі спачуваньня сям'і й памінальным словам аб памерлым Старшыня Рады БНР Івонка Сурвілла ды сябры Рады БНР Янка Запруднік і Антон Шукелойць.

Вечная памяць вернаму сыну Беларусі.

*Янка ЗАПРУДНІК*

## НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД "БЕЛАРУСА" АХВЯРАВАЛІ:

| | |
|---|---|
| А. Монід | 100 |
| У. Ракуць | 100 |
| Я. Єажыч | 100 |
| Г. Руднік | 75 |
| М. і Т. Белямук | 60 |
| М. Грынчук | 50 |
| В. Грыцук | 50 |
| Ю. Касьцюкевіч | 50 |
| Н. Няпейн | 50 |
| К. Верабей | 40 |
| М. Сьнежка | 40 |
| К. Акула | 30 |
| А. Івановіч | 30 |
| Н. Казакова | 30 |
| І. Кормаз | 30 |
| А. Маркевіч | 30 |
| Ю. Міхед | 30 |
| А. Сокал | 30 |
| А. Трапез | 30 |
| В. Цярпіцкі | 30 |
| І. Юхнавец | 30 |
| Н. Касмовіч | 20 |

### Справаздача з Аўстраліі ад Рыгора ШЭЙПАКА:

| | |
|---|---|
| Р. Шэйпак | аўстр. дал. 80 |
| Х. Лашук | 70 |
| Л. Яцкевіч | 55 |
| З. Кадняк | 50 |
| Ж. Сідлярэвіч | 50 |
| В. Каралюк | 50 |
| А. Груша | 36 |

### Заміж кветак на магілу Міхася РАЕЦКАГА:

| | |
|---|---|
| Сп-ва Дарэўскіх | 100 |
| Сп-ва Бразоўскіх | аўст. дал. 50 |
| Сям'я Мароз | 50 |
| Беларускае Згуртаваньне ў Аўстраліі | 28.80 |

### Заміж кветак на магілу Віталя КАЖАНА:

| | |
|---|---|
| Я. і Н. Запруднік | 100 |
| У. Набагез | 100 |
| Калегі Аўгена Кажана з Lockheed Martin MS2 | 100 |
| Д. Буратынскі | 50 |
| Я. Жучка | 50 |
| Я Кабяка | 50 |
| М. і В. Сьнежка | 50 |
| Т. і К. Кавунедус | 25 |

## Дапамога беларускай адукацыі

У студзені шмат ахвярадаўцаў працягвалі даваць дапамогу для беларускай адукацыі, якая цяпер так пільна неабходная, каб даць адпор узмоцненаму наступу з боку антыбеларускага рэжыму. Да акцыі далучыліся наступныя асобы, якія згадзіліся дапамагаць штомесячна да канца школьнага году:

**Нью Ёрк**: адказная Тацьцяна Красоўская тэл.: *(718) 859-7201.*

**Уладзімер Зайцаў, Вольга Карпіевіч, Кацярына Харлап, Сяргей Казлоў, Васіль К., Сяргей Капытка, Альфія Гайнутдзінава.**

З Сыднэю ў **Аўстраліі** паступіла большае ахвяраваньне ад **Міхася Лужынскага.**

**Заклікаем грамадзтва беларускай дыяспары далучацца да гэтай акцыі!**

Усе ахвяраваньні на гэтую мэту звольненыя ад падаткаў. Чэкі можна выпісваць на ўстанову, якая каардынуе акцыю дапамогі, ***O. R. Cultural & Educational Foundation*** і дасылаць на адрас: ***172 Mill Spring Rd, Manhasset, N.Y, 11030***



## На БІНіМ
### на выданьне ангельска-беларускага слоўніка ахвяравалі:

| | |
|---|---|
| Кастусь Акула | канад. дал. 40 |
| Алесь Кот | 25 |
| П. Мурзёнак | 20 |
| С. Кавалёў | 20 |
| Ю. Шаўчэнка | 10 |


**БЕЛАРУС**
*Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце*
*Выдае штомесячна:*
*БЕЛАРУСКА-АМЭРЫКАНСКАЕ ЗАДЗІН-Е*
**Сусьветнае сеціва:** baza-belarus.org
*Падпіска $30 на год.*
*Чэкі выпісвайце на BIELARUS*

**BIELARUS**
*Belarusan Newspaper in the Free World*
*Published monthly by*
*BELARUSAN AMERICAN ASS'N, Inc.*
*Subscription $30 yearly*
*Make checks payable to BIELARUS*

*Рэдагуе калегія.*
*Адказны рэдактар*
*Марат Клакоцкі*
*Падпіска*
*Сяргей Трыгубовіч*
*Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам ці ініцыяламі, могуць зьмяшчаць пагляды, зь якімі Рэдакцыя не згаджаецца.*
*Перадрук дазваляецца толькі пры ўмове зазначэньня крыніцы.*



**Адрас для допісаў і кантактаў:**
BIELARUS
P.O. Box 3225
Farmingdale, NY 11735
**E-mail:**
hazetabielarus@att.net
**Сусьветнае сеціва:**
www.bielarus.org

ISSN 1054-9455
*Адказнасьць за зьмест рэкламы нясе рэклямадаўца.*